



# Рэгіянальная газета. Rh.by

Тэлетыдзень 27 каналаў

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА “Рэдакцыя газеты “Рэгіянальная газета”.

3 студзеня 2014 года №1 (975)


## З Калядамі!

*Віншуем праваслаўных вернікаў і іх сем'і са святам!*
*Шчасця вам, здароўя, добрых навін і здзяйсненняў!*



**НАВІНЫ РЭГІЁНА**

### Героі нашых артыкулаў жадаюць вам

**РЭГІЁН. Імёны іх можна часта сустрэць на старонках “Рэгіянальнай газеты”. Сёння героі нашых артыкулаў віншуюць вас з Новым годам.**

**Алег Чэчанеў, акцёр Мінскага абласнога драмтэатра:**



– Перад надыходзячым годам Каня хочацца ўспомніць радкі Маякоўскага: “Усе мы трошкі коні...”. Верш заканчваецца словамі: і жыць варта, і працаваць варта. Чаго ўсім і зычу. Будзьце падкаванымі ва ўсіх справах!

**Ігар Кіцікаў, дырэктар Вілейскага прафесійна-тэхнічнага каледжа:**



– Я ўпершыню патрапіў у святыя мясціны: Іерусалім і Віфлеем. Тры дні таму вярнуўся адтуль ужо са змененымі поглядамі. І хачу пажадаць чытачам духоўнай раўнавагі. Мы заўсёды жадаем здароўя, грошай, шчасця, але для мяне цяпер самае галоўнае – духоўная раўнавага. Калі знаходзішся ў згодзе з самім сабой.

**Рыгор Сарока, дырэктар музычнага каледжа імя Агінскага:**



– Перш чым пажадаць, хачу падзякаваць за тое, што маладзечанская аўдыторыя натхняе мяне рабіць штосьці для яе. Дзякую маладзечанцам за іх інтэлект, за іх жаданне быць прыгожымі. І жадаю, каб жыццё гэтаксама павярнулася да іх.

**Рэдакцыя “РГ”.**

# Няхай у новым годзе задуманае здзейсніцца!

Фота Насці РОЎДЫ

**Марыя Глёза і Караліна Лобач (злева направа) у навагоднюю ноч на Цэнтральнай плошчы ў Маладзечне.**





БЯСПЕКА

# Пункты пропуску ў школах

## Сачкаваць больш не атрымаецца?

**МАЛАДЗЕЧНА. Да 30 снежня ў гарадскіх школах павінны завяршыцца мантаж і наладка ўваходных турнікетаў.**

З якой мэтай іх усталёўваюць? Як гэтая сістэма будзе працаваць, – запыталася "Рэгіянальная газета" ў загадчыцы сектара фінансава-гаспадарчай і кадравай работы аддзела адукацыі **Юліі Бахар.**

– Такія пункты пропуску з'явіліся ў школах, у якіх вучыцца больш за 700 дзяцей. Плануецца, што пасля навагодніх канікулаў сістэма пачне працаваць. Там, дзе колькасць дзяцей меншая, будуць усталяваныя відэакамеры. Але гэта не значыць, што ў будучыні турнікеты не з'явяцца і ў астатніх школах. Колькасць дзяцей у школах штогод мяняецца.

***– Як будзе працаваць такая сістэма?***

– Дзеці будуць праходзіць праз турнікеты, прыкладаючы электронныя карты, якія ім выдадуць. Такія карткі будуць толькі ў дзяцей. Супрацоўнікі школы будуць заходзіць без картак. Уваход у школу па картках дазволіць сачыць, ці прыйшло дзіця на заняткі. У школу не змогуць увайсці староннія асобы. Таму можна будзе сказаць, што з такой сістэмам і бацькам, і настаўнікам будзе спакайней.

***– За карткі бацькі будуць плаціць?***

– Не, карткі ўсім вучням будуць выдаваць бясплатна. Іншая справа, калі дзіця яе згубіць або зламае. Тады так, бацькі будуць вымушаныя аднавіць картку за свой кошт.

***– А недахопы ў такой сістэме ёсць?***

– Ну тэарэтычна, адзін школьнік зможа перадаваць сваю картку некаму яшчэ, таму што такія карткі не будуць імяннымі. Дарослы чалавек такой карткай скарыстацца не зможа. Але таму мы і не адмаўляемся ад вахцёраў. Яны ж павінны ведаць дзяцей са сваёй школы? І не прапускаць чужых.

***– Колькасць прапускных пунктаў абмежаваная. Два ці чатыры турнікеты на школу. Ці не створыць гэта натоўп пры ўваходзе ў школу?***

– Такія змены не робіцца без узгаднення праекта. "Затору" на ўваходзе ў школу быць не павінна. Да таго ж, не ўсе дзеці прыходзяць у школу аднachасова. А пры якой-небудзь надзвычайнай сітуацыі можна будзе хутка адчыніць выхад. Таму хваляванняў гэта не павінна выклікаць.

**Наталля ТУР.**



Фота Наталлі ТУР.

Вучаніцы СШ №12 перад турнікетам.

## Што думаюць пра турнікеты самі вучні, запыталі мы ў маладзечанскіх школьнікаў:



**Вераніка Кажура, вучаніца 9 "Г" класа школы №12:**

– Я за турнікеты. Гэта добра і бяспечна. Бацькі заўсёды будуць ведаць, ці дайшоў іх сын ці дачка да школы.



**Ксенія Космач, вучаніца 11 "В" класа школы №12:**

– Ну паставілі і паставілі. Нармальна. Хаця 11 гадоў вучыліся і без іх. Але я хачу паглядзець на тое, як натоўп першакласнікаў будзе праходзіць па картках з раніцы. І ці будзе лічыцца ўважлівай прычынай спазненне на ўрок праз тое, што стаяў на ўваходзе?



**Ян Дзмітрыеў, вучань 10 "А" класа школы №12:**

– Яны мне не перашкаджаюць, хай будуць. Хаця вялікай патрэбы ў турнікетах я не бачу, як прагульвалі, так і будуць прагульваць.



**Раман Жалезка, вучань гімназіі-каледжа мастацтваў:**

– Я за турнікеты. Гэта крута! Я ўвогуле за тое, каб было вакол больш металу. А калі сур'ёзна, то гэта правільна, дзеці і бацькі павінны ў школе адчуваць сябе бяспечна.



**Аляксандр Мілавідаў, вучань 9 "Г" класа школы №12:**

– Я ўвогуле не разумею, нашто яны патрэбныя. У нас жа ёсць вахцёр, яна ўсё роўна нікога чужога не прапусціць. Лепей бы ў спартзалу набылі інвентар.

**Наталля ТУР.**



ІНТЭЛЕКТУАЛЬНЫЯ ГУЛЬНІ

# Мядзел перамог у калядным турніры па інтэлектуальных гульнях

**АСТРАВЕЦ. У Мальскім сельскім Доме культуры 21 снежня адбыўся сёмы Астравецкі адкрыты калядны турнір па інтэлектуальных гульнях.**

Прыняць удзел у ім маглі каманды, узрост удзельнікаў якіх перавышае 18 год.

Прыехалі 22 каманды. Пераважна з Астравецкага раёна, а таксама прадстаўнікі Ашмянскага, Смаргонскага і Мядзельскага.

У праграме турніру было тры гульні. У "МедыяАзбуцы" першае месца падзялілі дзве каманды – "Тасіла" з Ашмянаў і "Matrix-V" аддзела адукацыі, спорту і турызму Мядзельскага райвыканкама.

У "Сваёй гульні" і "Што?Дзе?Калі?" першае месца заняла зноў жа "Matrix-V".

Адпаведна каманда з Мядзела стала пераможцай каляднага турніру па суме ўсіх гульняў. Апроч дыпломаў, атрымала яна і прыз лепшай камандзе – чырвоны "Яблык азарэння".

– Перамагчы ўдалося дзякуючы зладжанай каманднай гульні і высокаму ўзроўню ведаў, – расказаў капітан каманды "Matrix-V" Вячаслаў Саўчык. – Адзначу вельмі высокі ўзровень арганізацыі турніру.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**





■ ЦІКАВА ВЕДАЦЬ

# Звычайная ручка. Цяпер і ў даўніну

**МАЛАДЗЕЧНА. Чым пісалі нашы прабабулі, а чым пішам мы? Ад з'яўлення пяра да паходу ў сённяшнюю краму канцылярскіх тавараў.**

Адно з галоўных пытанняў, якое паўстае, калі мы вырашаем набыць ручку, – гэта якую выбраць: пёравую, гелевую ці шарыкавую?



Фота забяспечана Аляксандрам ДЗЯМІДЧЫКАМ

**1959 год, Барысаўскі раён, вёска Забашавічы, бальніца. У мікраскоп глядзіць лабарант Валянціна Гутоўская. Побач з ёй – медсястра, мая бабуля, Людміла Дзямідчык.**

## Пёравая

Менавіта гэтымі ручкамі карысталіся на працягу некалькіх стагоддзяў. Галоўная прычына ў тым, што, нягледзячы на сваю архаічнасць, яны застаюцца самымі прэстыжнымі.

Якімі б зручнымі, практычнымі і дасканалымі ні былі новыя мадэлі, пёравыя ручкі застануцца даволі папулярнымі яшчэ доўга. Чаму?

– Пёравая ручка надае чалавеку стыльнасць, прыгажосць, – лічыць навучэнка маладзечанскага музкаледжа **Наталля Завадская**. – З ёй чалавек выглядае куды лепш, чым з якой-небудзь наваротчанай, дзе на канцы боўтаецца цацка. Ды і почырк куды прыгажэйшы.

Пяро прыйшло ў наш "клавіятурны век" з далёкага мінулага, але з тых часоў цалкам змяніла свой выгляд.

**Першае сталёвае пяро ў 1748 годзе вынайшаў Ёханэс Янсэн (Johannes Janssen). У 1842 годзе нямецкая фірма Heintze&Blanckertz пачала прамысловую вытворчасць пёраў для пісання.**

Вось што прыгадала мая **бабуля Люся**:

– Калі я хадзіла ў школу, а гэта былі пасляваенныя гады, мы пісалі толькі пёравымі ручкамі, бо іншых не існавала.

У кожным класе ў спецыяльнай самаробнай драўлянай скрыначцы стаялі чарнільніцы, у якія мачалі пёры. Кожную раніцу дзяжурны раздаваў усім вучням па адной на парту.

У парце была зробленая спецыяльная круглая выемка, у якую ставілі чарнільніцу. Яшчэ дзве прадаўгаватыя – для ручак. Каб не вымазаць парту чарніламі, кожны вучань павінны быў мець чыстапёрку.

**– А з чаго рабілі гэтую чыстапёрку?**

– Чыстапёрку вучань майстраваў сам, з двух альбо болей кружкоў тканіны, якія пасярэдзіне змацоўваў невялікім гузікам. Тканіну стараліся падбіраць з сукна.

Перад тым, як пакласці ручку на парту, вучню трэба было выцерці пяро аб чыстапёрку. На парце пад ручку таксама падкладалі тканіну.

**– Колькі відаў пёраў існавала ў той час?**

– У продажы пёры былі двух відаў: "Зорачкі" і "Сухоцкія". Першыя прызначаліся для вучняў, а другія – для работнікаў устаноў. Школьнікам карыстацца "Сухоцкімі" забаранялася. Лічылася, што імі яны псуюць свой почырк.

Сама ручка складалася з двух частак: драўлянай асновы і металічнага наканечніка, у якім замацоўвалася пяро. Звычайна ручкі былі цемна-зялёнага колеру. У дзяржаўных установах (на фотаздымку) існавалі спецыяльныя чарнільныя прыборы.

**– Якія лепш: былыя пёравыя ці сучасныя шарыкавыя?**

– Зразумела, шарыкавыя ручкі зручнейшыя. Аднак почырк прыгажэйшы, калі пішаш пёравай.

Цяпер пёравыя ручкі пазбаўленыя практычна ўсіх недахопаў сваіх папярэднiц. Яны ніколі не паставяць кляксы, не працякуць ў кішэні пінжака, не падвядуць у адказны момант і не падрапаюць паперу. Іх не трэба мачаць у чарнільніцу. І галоўнае – яны так мякка слізгаюць па паперы, што рука не стамляецца ад доўгай пісаніны.

## Гелевая

Апытаўшы больш за паўсотню навучэнцаў музкаледжа, стала зразумела, што гелевая – не лепшы варыянт.

– У паўсядзённым карыстанні я не лічу за лепшую гелевую ручку, таму што яна размазваецца на паперы і ўвесь час вымазваеш рукі, – кажа навучэнка чацвертага курса музкаледжа **Ірына Макарэвіч**. – Карацей, заўсёды пісаць ёй нязручна. Часам падпісваю паштоўкі, падкрэсліваю важнае ў канспектах і выдзяляю ключавыя словы. Так прыгажэй. Перавагу ж аддаю звычайнай шарыкавай ручцы.

## Шарыкавая

Вынаходніцтва шарыкавай ручкі нашмат палегчыла жыццё тым, хто па роду сваёй дзейнасці вымушаны шмат пісаць. Такія ручкі не патрабуюць запраўкі чарніламі і спецыяльнага догляду, стрыжні лёгка мяняюцца і, што самае галоўнае, шарыкавыя ручкі – самыя танныя.

У іх не вадкае чарніла, як у пёравых, а густая чарнільная паста на алейнай аснове. Яна самая эканомная і практычная.

**У шарыкавай ручцы для пісання выкарыстоўваецца шарык, які круціцца ў сваім гняздзе. Ён збірае чарніла, якое сцякае праз спецыяльныя каналы розных формаў і памераў.**

Крамы нам прапануюць самыя розныя ручкі: аўтамат і не аўтамат, з цацкамі і без, празрыстыя і не празрыстыя, з металам альбо толькі з пластыку.

Кошт на іх таксама вагаецца. Можна набыць за дзве тысячы, а можна – за мільён і дзве. Ёсць сусветна вядомыя фірмы, якія выпускаюць ручкі. Там на іх кошт пачынаецца дзесьці ад 150 тысяч. Можна на ручках зрабіць гравіроўку альбо аздобіць каштоўнымі металамі. Усё залежыць ад таўшчыні кашалька.

## У выбары прасочваюцца тэндэнцыі

Стрыжні любой ручкі карыстальнікі мяняюць не вельмі любяць.

– Накупіш стрыжняў, а ручка зломіцца ці наогул згубіцца. Так і ляжаць непатрэбнымі, – найчасцей чую я ў адказ.

Важную ролю пакупнікоў адыгрывае колер і дыяметр лініі пісання ручкай. Чорнаму колеру аддаюць перавагу хлопцы і мужчыны, а вось дзяўчаты і жанчыны прытрымліваюцца звычайнага сіняга.

А вось тонкім стрыжнем любяць пісаць амаль усе.

**Аляксандр ДЗЯМІДЧЫК, школка журналістыкі пры рэдакцыі "РГ".**

**Даведка "РГ".** Прынцып дзеяння шарыкавай ручкі запатэнтаваў у 1888 годзе ў ЗША Джон Лауда. Сучасную шарыкавую ручку вынайшаў венгерскі журналіст Ласло Біро ў 1938 годзе. У СССР шарыкавыя ручкі атрымалі распаўсюджанне ў канцы 1960-х гадоў, пасля таго як восенню 1965 года пачалася іх масавая вытворчасць на швейцарскім абсталяванні.

| Курсы валют НБ РБ | 26.12 | 3.01 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| **Долар ЗША** | 9 480,00 | **9 520,00** |
| **Еўра** | 12 980,00 | **13 130,00** |
| **Злоты** | 3 120,37 | **3 161,37** |
| **Літ** | 3 754,38 | **3 798,05** |
| **Расійскі рубель** | 290,50 | **290,00** |
| **Грыўня** | 1 155,03 | **1 158,87** |
| **Курсы ў "Банку БелВЭБ" у Маладзечне 31.12.2013** | | |
| **Долар ЗША** | 9500/9590 | **9470/9650** |
| **Еўра** | 12980/13120 | **13050/13300** |

**Цэны на рынку** (Маладзечна)

| ПРАДУКТЫ | 24.12 | 30.12 |
|---|---|---|
| | Цана руб. | |
| **Кілбаса с/вэндж.**, 1 кг | 105900 | **110100** |
| **Сасіскі**, 1 кг | 49900 | **45050** |
| **Ялавічына**, (выразка), 1 кг | 85000 | **75000** |
| **Кураня-бройлер**, 1 кг | 25000 | **24500** |
| **Мінтай свежамарожаны**, 1 кг | 28000 | **28300** |
| **Селядзец**, 1 кг | 32000 | **32500** |
| **Скумбрыя х/в**, 1 кг | 92000 | **78000** |
| **Рыс**, 0,9 кг | 7600 | **9500** |
| **Грэчка**, 0,9 кг | 8000 | **8850** |
| **Яйкі курыныя**, 1 дзес. | 14000 | **13000** |
| **Алей** | 16000 | **14800** |
| **Маянэз**, 200 г | 6000 | **5000** |
| **Соус "Мінскі"**, 0,5 л | 7500 | **7000** |
| **Кава "Nescafe"**, 100 г | 28000 | **28000** |
| **Шпроты**, бляшанка 160 г | 13600 | **8000** |
| **Цыбуля рэпчатая**, 1 кг | 6000 | **6000** |
| **Капуста**, 1 кг | 3500 | **3500** |
| **Морква**, 1 кг | 4500 | **4500** |
| **Буракі**, 1 кг | 3500 | **4500** |
| **Лімоны**, 1 кг | 19500 | **19000** |
| **Апельсіны**, 1 кг | 15500 | **14500** |
| **Мандарыны**, 1 кг | 17500 | **13500** |
| **Памідоры**, 1 кг | 24500 | **34000** |
| **Агуркі**, 1 кг | 30000 | **27000** |
| **Перац**, 1 кг | 35000 | **38000** |
| **Вінаград**, 1 кг | 19500 | **33000** |
| **Бананы**, 1 кг | 12500 | **15000** |
| **Яблыкі**, 1 кг | 8000 | **10000** |
| **Грушы**, 1 кг | 18500 | **14500** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| **Малако**, 1,5 л | – | **12000** |
| **Масла**, 1 кг | – | **75000** |
| **Тварог**, 1 кг | – | **40000** |
| **Бульба**, 1 кг | – | **4000** |
| **Сала**, 1 кг | – | **65000** |
| **Мёд**, 0,5 л | – | **50000** |

■ АФІЦЫЙНА

## 2014-ы – Год гасціннасці

**Адпаведны ўказ прэзідэнт краіны падпісаў 27 снежня.**

Як паведамляе прэс-служба прэзідэнта, ураду даручана сумесна з аблвыканкамамі, Мінгарвыканкамам распрацаваць і зацвердзіць рэспубліканскі план мерапрыемстваў па правядзенні Года гасціннасці. І забяспечыць каардынацыю дзейнасці дзяржаўных органаў, іншых арганізацый па іх выкананні.

**Аддзел інфармацыі.**

ТРАГЕДЫЯ

# Дзіця памерла ад менінгакокавай інфекцыі

**На Вілейшчыне 22 снежня зарэгістравалі выпадак смерці ад менінгакокавай інфекцыі 13-гадовага падлетка.**

На пачатковым этапе захворванне развівалася як ВРВІ, затым рэзка паднялася тэмпература, з'явіўся сып, які за лічаныя хвіліны пакрыў усё цела дзіцяці.

Менінгакокавая інфекцыя распаўсюджваецца паветрана-капельным шляхам – пры кашлі, чханні, размове, пры досыць цесных і працяглых зносінах. Небяспека захворвання ў тым, што яно можа развівацца ў лічаныя гадзіны і нават хвіліны (так званыя "вокамгненныя" формы захворвання), і выратаваць хворага атрымоўваецца не заўсёды.

Крыніцай ўзбуджальніка інфекцыі служыць хворы чалавек або бактэрыяносьбіт. Часцей за ўсё носьбітамі з'яўляюцца дарослыя, нават не падазраючы пра гэта.

Пачатковыя клінічныя праявы захворвання нагадваюць прастуду ці грып: запаляецца задняя сценка глоткі, хворыя пакашліваць, у іх закладзены нос, пяршыць у горле. На гэтым этапе пацыентам часцей за ўсё ставіцца дыягназ: вострае рэспіраторнае захворванне. Няправільная і несвоечасовая дыягностыка можа далей прывесці да запалення мазгавых абалонак.

При менінгакокавай інфекцыі з'яўляецца моцны галаўны боль, які не здымаецца звычайнымі абязбольвальнымі сродкамі. На працягу гадзіны звычайна падымаецца тэмпература да 39-40°, праз пяць-шэсць гадзін узнікае рвота, якая не прыносіць палягчэння хвораму. Але самы грозны сімптом, на які абавязкова трэба звярнуць увагу, – з'яўленне сыпу.

І менавіта пры наяўнасці яго трэба абавязкова паўторна выклікаць доктара.



Часцей за ўсё носьбітамі менінгакокавай інфекцыі з'яўляюцца дарослыя, нават не падазраючы пра гэта.

### Меры прафілактыкі менінгакокавай інфекцыі

– Паколькі ўзбуджальнік няўстойлівы ў знешнім асяроддзі, важна рэгулярна праветрываць памяшканне, рабіць вільготную ўборку з выкарыстаннем дэзінфекуючых сродкаў.

– Больш гуляць з дзіцем на адкрытым паветры, пазбягаць паездак у грамадскім транспарце, не знаходзіцца доўга там, дзе ёсць вялікая колькасць людзей (крамы, рынкі, цырульні і г. д.).

– Пры доглядзе за маленькім дзіцем трэба абавязкрова насіць марлевую маску ў перыяд захворвання дарослага.

– Усе святочныя мерапрыемствы, звязаныя з нараджэннем дзіцяці (хрэсьбіны), неабходна праводзіць па-за кватэрай, дзе ён знаходзіцца.

– Каб не захварэць і не заразіць навакольных, трэба пазбаўляцца ад хранічных захворванняў насаглоткі: фарынгіту, танзіліту, ларынгіту.

– Неадкладна выклікаць "хуткую" пры з'яўленні першых сімптомаў захворвання.

– Да прыезду "хуткай" ізаляваць хворага, выдзеліць яму індывідуальныя сродкі асабістай гігіены і посуд.

**Алена КВЯТКОЎСКАЯ,** доктар-эпідэміёлаг Вілейскага райЦГіЭ.

СЛУЖБА 101

## На пажары згарэў невядомы

**МАЛАДЗЕЧНА. Здарэнне адбылося 26 снежня а дзявятай гадзіне раніцы ў садовым таварыстве "Івушка - 2002", што непадалёк ад вёскі Дубрава Алёхнавіцкага сельскага Савета.**

Выратавальнікаў выклікаў мясцовы жыхар. Ён паведаміў, што ў адным з жылых дамоў гарыць дах. Калі супрацоўнікі МНС прыбылі на месца здарэння, убачылі, што дачны дом гарыць адкрытым полымем.

У доме выратавальнікі знайшлі моцна абгарэлы труп. Асоба загінулага і прычыны пажару высвятляюцца, – паведаміў "Рэгіянальнай газеце" старшы інжынер Маладзечанскага гаррайаддзела па надзвычайных сітуацыях **Сяргей Палітыка**.

**Наталля ТУР.**

ДАІ ПАВЕДАМЛЯЕ

## Падарылі флікеры пад Новы год

**МАЛАДЗЕЧНА. Аказваецца, ведаць правілы дарожнага руху досыць весела, асабліва, калі побач вялікі плюшавы мядзведзь.**

Напярэдадні Новага года ДАІ разам з "Coca-cola" вырашылі парадаваць дзяцей забаўляльнай праграмай.

Ім не проста расказвалі пра правілы, але з імі гулялі, скакалі, пелі і вадзілі карагод.

І хоць вучні былі рознага ўзросту, з розных школ, усе разам удзельнічалі і забаўляліся.

Асабліва парадаваў вялізны плюшавы мядзведзь, да якога дзеці кідаліся ў абдымкі.

Напрыканцы ж кожнаму, хто прыйшоў, у падарунак да Новага года дастаўся флікер.

**Настасся РОЎДА.**



Патрапіць у абдымкі да плюшавага мядзведзя ахвотных было шмат.



Супрацоўнік ДАІ Сяргей Бартош праводзіць гульню.

КРЫМІНАЛ

## Дзяўчаты скралі грошы ў кавалераў

**МАЛАДЗЕЧНА. 200 долараў і мабільны тэлефон скралі ў сваіх выпадковых знаёмых двое дзяўчат з Маладзечна.**

Дзяўчаты 17 і 18-гадовага ўзросту 17 снежня адпачывалі ў адной з гарадскіх кавярняў. Там яны пазнаёміліся з маладымі людзьмі. Час набліжаўся да закрыцця кавярні, і хлопцы, не жадаючы развітвацца з упадабанымі дзяўчатамі, запрасілі іх прадоўжыць вечар у гасцініцы "Маладзечна".

Адзін з хлопцаў, які быў прыезджы, на сваё імя зняў два нумары ў гасцініцы. У адным з нумароў кампанія працягвала знаёмства: распівалі спіртныя напоі, весяліліся.

Праз некаторы час адна з дзяўчат адлучылася быццам у прыбіральню. А па дарозе захапіла з сабой куртку свайго новага знаёмага.

У прыбіральні дзяўчына дастала з кішэні партаманет, узяла адтуль 200 долараў, але калі вяртала партаманет зноў у кішэнь, прамахнулася, і ён застаўся ляжаць на падлозе ў прыбіральні.

Дзяўчына, як ні ў чым не бывала, вярнулася за стол, гутарка працягвалася. Калі ж хлопцы выйшлі з пакоя пакурыць, яна перадала 100 долараў сваёй сяброўцы, падзялілася скрадзеным пароўну.

Дзяўчаты, карыстаючыся тым, што хлопцы выйшлі з пакоя, хуценька засбіраліся дадому, прыхапіўшы з сабой і мабільны тэлефон аднаго з кавалераў.

Сыходзілі па-англійску, не развітаўшыся. Але па нейкай фатальнай выпадковасці адна з дзяўчат забылася свой мабільны тэлефон. Мусілі вярнуцца.

А хлопцы ўжо ў гэты час не далічыліся грошай і свайго тэлефона, выклікалі міліцыю. Пры аглядзе ў дзяўчат і знайшлі скрадзеныя рэчы і грошы.

Узбуджаная справа па артыкуле 205 ч. 2 Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь.

Дзяўчаты ніздзе не вучыліся, адна з іх нават не працавала, – паведаміла "Рэгіянальнай газеце" **Марына Рагінская**, следчы па асабліва важных справах Маладзечанскага аддзела Следчага камітэта.

**Наталля ТУР.**





ДАБРАЧЫННАСЦЬ

# Дзед Мароз прыносіў свята ў дамы

**МАЛАДЗЕЧНА. Віншаванні ад цэнтра сацабслугоўвання 26 снежня прымалі сем'і, якія выхоўваюць дзяцей з інваліднасцю.**

Снягурачка (псіхолаг Маладзечанскага цэнтра сацыяльнага абслугоўвання насельніцтва **Алена Камісарук**) і Дзед Мароз (дырэктар дзіцячай мастацкай школы **Алена Кучко**) наведалі сем'і, якія сёлета актыўна і адкрыта ўдзельнічалі ў клубе "Мы разам".

Дзеці сустракалі гасцей у прыгожых касцюмах. Хлопчык Арсень нават апрануў касцюм маленькага Дзядка Марозіка. Разам са Снягурачкай яны гулялі ў гульні, а Дзед Мароз глядзеў, ці старанна прыбіралі ёлку.

У многіх сем'ях было некалькі дзяцей, і ўсе яны, нават школьнікі, сустракалі казачных персанажаў з захапленнем. І ўжо ў другую чаргу радасць выклікалі падарункі.



Фота Зоі ХРУЦКАЙ.

Свята прыйшло ў сям'ю Віталя Грыба, яго жонкі Кацярыны і дачушкіПаліны. Злева направа: Віталь і Кацярына з дачушкай, Дзед Мароз і Снягурачка.

### Клуб дапамагае прыняць і змагацца

Клуб "Мы разам" працуе пры цэнтра сацабслугоўвання насельніцтва. Яго наведваюць бацькі, дзеці якіх да пяці год маюць інваліднасць.

Удзельнікі клуба збіраюцца разам раз на месяц і атрымліваюць юрыдычную кансультацыю, па санаторна-курортным лячэнні, а таксама падтрымку псіхолага. Бацькі дзеляцца каштоўным досведам, як яны праходзілі розныя працэдуры.

Арганізатар клуба Алена Камісарук раіць прымаць удзел бацькам, як толькі яны даведаліся пра інваліднасць. Сумесныя заняткі дапамогуць прыняць праблему, а толькі прыняўшы яе, магчыма пачаць вырашаць.

– Важна ўсведамляць, што ваша дзіця роўнае з іншымі, толькі мае пэўныя асаблівасці, – адзначае псіхолаг. – Дзіця трэба развіваць, займацца з ім, і тады здароўе паляпшаецца. Многім дзецям праз пэўны час здымаюць інваліднасць, але гэта шлях, які трэба прайсці разам.

**Маладзечанскі цэнтр сацабслугоўвання насельніцтва знаходзіцца па вуліцы Таўлая, 4. Тэлефон псіхолага Алены Камісарук, арганізатара клуба "Мы разам", – 8(0176) 74-66-20.**

Ахвотныя ўдзельнічаць у клубе могуць звяртацца да Алены Камісарук.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**

Больш фота на сайце Rh.by

БЯСПЕКА

# Як перазімаваць і зберагчы сябе

**Ад пачатку снежня фіксуюць траўмы і пераломы рук і ног, вывіхі і расцяжэнні суставаў. Таму варта надаць увагу вопратцы і абутку, прызначаных для зімовых умоў.**

Не менш увагі трэба звярнуць і на якасць уборкі тэрыторый населеных пунктаў і арганізацый.

Устаноўлена, што стан траўматызму на 90 працэнтаў залежыць ад знешніх і ўнутраных фактараў. Знешнія – гэта стан тратуараў і пешаходных зон, ганкаў і прыступак будынкаў, прыпынкаў грамадскага транспарту, аўтамабільных дарог і стаянак, вуліц, пад'ездаў да жылых і грамадскіх будынкаў.

Унутраныя фактары – гэта захаванне тэхнікі бяспекі, прытрымліванне здаровага ладу жыцця, правілаў дарожнага руху.

### Распаўсюджаныя траўмы – што рабіць?

Найбольш распаўсюджаныя траўмы – пераломы рук і ног. Яны часцей за ўсё здараюцца з-за таго, што калі чалавек падае, інстынктыўна выстаўляе наперад руку і падае на яе ўсёй вагой цела. Аналагічна выстаўленая нага ламаецца ў галёнцы. У жанчын гэтаму спрыяе яшчэ і нашэнне абутку на высокім абцасе. У ім лёгка спатыкнуцца.

Пажылыя людзі з-за ўзроставых асаблівасцяў шкілета нярэдка атрымліваюць вельмі сур'ёзныя пашкоджанні. Яны часцей ламаюць пазваночнік, шыйку сцягна. У сталым узросце нават нявялікі ўдар можа выклікаць пералом, прычым у 95 працэнтах выпадкаў гэта праяўляецца ў жанчын. Вывіхі адбываюцца пры падзенні, удары, а часам і пры няёмкім руху.

### Выконвайце простыя правілы

Каб папярэдзіць "зімовы" траўматызм, дастаткова выконваць некаторыя простыя правілы:

1. **Насіць абутак пажадана на плоскай падэшве або на нізкім квадратным абцасе, лепш, калі падэшва будзе з буйной рабрыстасцю, якая не слізгае.**
2. **У галалёдзіцу хадзіць трэба па-асабліваму – як бы слізгаць, нібы на маленькіх лыжах. І ісці як мага павольней, максімальна ўважліва і асцярожна, асабліва падымаючыся на прыступкі, бардзюры.**
3. **Слізгаць па лёдзе спецыяльна – не варта. Гэта павялічвае абледзяненне падэшвы.**
4. **Трэба выконваць тэхніку бяспекі пры занятках экстрэмальнымі відамі спорту, набыць і выкарыстоўваць усе неабходныя прыналежнасці.**
5. **Асобам сталага веку рэкамендуецца прымацоўваць на падэшву звыклага абутку адмысловыя "супрацьгалалёдныя" накладкі. Таксама для дадатковай апоры карыстацца кіем.**
6. **Дзіця важна навучыць захаванню тэхнікі бяспекі пры катанні на лыжах, каньках, санках.**

Карысным будзе нагадаць кіраўнікам ведамстваў, адказным за ўборку тэрыторый, і дворнікам аб асноўных момантах зімовай уборкі.

У зімовы перыяд санітарная ачыстка і ўборка тэрыторыі заключаецца ў ачыстцы ад снежных, ледзяных і снежна-ледзяных утварэнняў, апрацоўцы пры неабходнасці супрацьгалалёднымі сродкамі прыступак, ганкаў, пандусаў, пешаходных дарожак, прылеглых да ўстаноў тратуараў.

Снег і наледзь з праезнай часткі і пешаходных дарожак павінны вывозіцца на ўстаноўленыя УП "Камунальнік" пляцоўкі.

### За што адказны "Камунальнік"

Работнікі УП "Камунальнік" у першую чаргу праводзяць работы па апрацоўцы супрацьгалалёднымі сродкамі і расчыстцы ад снегу і наледзі прыпынкаў грамадскага транспарту, мастоў, пешаходных пераходаў. Таксама праездаў у жылых дамах і іншых месцах магчымага збору пешаходаў і транспартных сродкаў, праезнай часткі, тратуараў, пасадачных пляцовак.

Валы снегу расчышчаюцца на скрыжаванні на шырыню скрыжавання, на прыпынках грамадскага транспарту – на даўжыню пасадачнай пляцоўкі, на пешаходных пераходах – на шырыню пешаходнага пераходу, але не менш чым на 5 м.

Фарміраванне снежнага вала на прыпынках грамадскага транспарту, пешаходных пераходах, на скрыжаваннях не дапускаецца.

Уборку ўсіх відаў снежных, ледзяных і снежна-ледзяных утварэнняў з дахаў будынкаў трэба рабіць так, каб было бяспечна і пешаходам, і транспарту.

Увага і асцярожнасць – асноўныя сродкі для прафілактыкі траўматызму. Таму, выходзячы на вуліцу, асабліва ў тыя дні, калі "плюс" на вуліцы зноў змяніўся на "мінус", трэба ацэньваць кожны свой крок.

Памятайце, лепшая прафілактыка зімовых траўмаў – гэта асцярожнасць і абачлівасць.

**Аляксандр ДУБОВІК, доктар-гігіеніст аддзялення камунальнай гігіены, нагляду і кантролю за гігіенічнай бяспекай тавараў народнага спажывання Маладзечанскага занальнага ЦГЭ.**

ПРЫРОДА

# Птушка 2014 года – зязюля

**Птушку традыцыйна выбірае Грамадская арганізацыя "Ахова птушак Бацькаўшчыны" (АПБ).**

Мінулы год прайшоў пад крыламі ўдода. Цяпер надышла чарга зязюлі.

– Лічыцца, што зязюлі – нашы птушкі, беларускія, але ў Беларусі яны праводзяць толькі тры месяцы ў год, – тлумачыць дырэктар АПБ **Віктар Фянчук**. – Большую частку года яны мігруюць альбо знаходзяцца на зімоўцы ў Афрыцы. Таму праз зязюлю мы хочам яшчэ раз звярнуць увагу на значнасць міграцый і зімовак для птушак. На тое, што захаванне міграцыйных відаў магчыма толькі ў трансгранічным кантэксце.

Зязюль у Еўропе ўсё меншае, бо змяняецца практыка вядзення сельскай гаспадаркі. У Беларусі сітуацыя лепшая.

Летась Беларусь далучылася да міжнароднай праграмы, якая дазваляе з дапамогай спадарожніка сачыць за звычайнай зязюляй. Дзякуючы спецыяльным датчыкам, якія замацоўваюць на птушках, можна атрымаць інфармацыю пра іх месцазнаходжанне ў рэжыме рэальнага часу.

Гэта дазваляе вызначыць шляхі міграцыі і месца зімоўкі. На пяці беларускіх зязюлях ужо з'явіліся датчыкі, а ў новым годзе плануецца далучыць да сачэння яшчэ дзесяць птушак.

**10 цікавых фактаў пра зязюлю:**

1. Кукуе толькі самец. Голас самкі падобны да чалавечага рогату.
2. Самкі маюць два колеры апярэння – шэры і руды.
3. З-за завостраных крылаў і паласатага малюнка на жываце падчас палёту зязюля падобная да драпежнай птушкі. Дзякуючы гэтаму самец зязюлі палохае птушку-гаспадара гнязда, а ў гэты час самка падкідвае яйка.
4. Зязюлі хапае ўсяго 10-16 секунд, каб падкласці яйка ў гняздо.
5. Зязюля падкідвае яйкі ў гнёзды не ўсім відам птушак, але спіс "ахвяраў" налічвае больш за 100 відаў.
6. Падкінутыя яйкі амаль супадаюць па колеры з яйкамі гаспадароў гнязда. Самка зязюлі за адзін сезон можа адкласці ад 8 да 25 яек, праўда, на кожныя 5 падкінутых яек вырастае толькі адно птушаня.
7. Час ад адкладвання яек да вылуплівання птушанят у зязюлі меншы, чым у тых, у чыіх гнёздах яны знаходзяцца.
8. Зязюля – дальні мігрант. Узімку яна ляціць у Афрыку. Ляцяць птушкі часцей за ўсё не чарадой, а паасобку.
9. Зязюлі ядуць вусеняў, пакрытых валаскамі, якіх іншыя птушкі не чапаюць. Так адбываецца з-за таго, што валаскі ўпіваюцца ў асаблівае пакрыццё сценак страўніка птушкі, а потым гэта пакрыццё выводзіцца са страўніка разам з валаскамі.
10. У паданнях шматлікіх народаў зязюля з'яўляецца сімвалам дабрабыту.

**Паводле інфармацыі АПБ.**





ЛІТАРАТУРА І ПЕРШАЯ СУСВЕТНАЯ

# Як салдат Швейк у Будславе чыгунку будаваў

**Ці ведаеце вы, што бравы салдат Швейк пабываў у Будславе, Маладзечне, Вілейцы? Не, не спяшайцеся ўсклікаць “Не можа быць!” і ліхаманкава перагортваць старонкі знакамітага рамана Яраслава Гашака.**

Так, успамінаў пра нашы мястэчкі ды гарады ў “Прыгодах бравага салдата Швейка ў часе сусветнай вайны” не знойдзеце. Гашак памёр, не паспеўшы расказаць пра далейшы лёс бравага салдата, але за яго гэта зрабіў сябар пісьменнік Карл Ванек. Ён стварыў працяг пад назвай “Прыгоды бравага салдата Швейка ў рускім палоне”. Ванек напісаў яго на падставе асабістага горкага доследу. У адным з раздзелаў ён прызнаецца чытачу: “Я быў таксама ў Расіі і жыў у палоне ў так званай палоннай працоўнай роце...”

У працягу знакамітага рамана няўдачлівы ваяка трапляе і ў лагер для ваеннапалонных, і ў Сібір, і ў тыповую рускую вёску... Немалая частка прыгод бравага салдата прыходзіцца на гарады і мястэчкі Беларусі.

Пасля блуканняў па Расіі Швейка і яго сяброў-чэхаў вязуць на Заходні фронт, для працы на абарону. Спачатку яны трапляюць у Віцебск. Пасля сустрэчы палонных адзін з капітанаў рускай арміі адзначыў: *“Чэхі – добры народ. Яны мне вельмі падабаюцца. І фізіяноміі іх звяртаюць на сябе ўвагу – усе інтэлігентныя асобы. Але яны босыя і распранутыя. Ох, як яны будуць красці! Яны будуць страшна красці, я запэўніваю вас!”*

І яго горшыя асцярогі пацвердзіліся: палонныя кралі са складоў усё, што траплялася пад рукі, і нават разукамплектавалі аэрапланы, якія ішлі на фронт. Ды не з дыверсійных мэтаў: проста ім трэба быў алюміній, з якога рабілі пярсцёнкі (тыя карысталіся папулярнасцю ў гараджан).

Але простае шчасце палонных было нядоўгім: працоўную роту пасадзілі ў вагоны і накіравалі бліжэй да фронту. У рамане яскрава паказаная атмасфера тых гадоў, апісаны хаос і крадзеж, якія квітнелі на вайне. Палонных абкрадалі ўсе, хто толькі мог:

*“Афіцэр Аляксей Пракоф'евіч Баранаў, які камандаваў 208-й працоўнай ротай, адпраўленай на пазіцыйныя працы з Віцебска, ужо ў цягніку пераканаўся, што такога шчасця, як распараджацца ротай палонных і быць іх неабмежаваным уладаром, больш у яго жыцці ніколі не прадставіцца і што гэту акалічнасць трэба выкарыстоўваць як мага паўней. Таму зараз жа ў Маладзечне, дзе яны спыніліся, чакаючы далейшых распараджэнняў ад штаба , ён прадаў яўрэю палову рыдлёвак і кірак, сякер і матык, якіх, на яго думку, было залішне”.*

*За гэта атрымаў восемсот рублёў. Але так як ён быў прыхільнікам круглых лічбаў, то дадаў да гэтага два мяшкі цукру і скрыню чаю, за што яўрэі яму дадалі яшчэ дзвесце рублёў”.*

І калі роце загадалі адправіцца паходным маршам ў Будслаў, на пабудову чыгункі, то аказалася, што *“нават на адну трацiну ні рыдлёвак, ні кірак не хопіць і што працаваць няма чым. Аднак афіцэр не тужыў:*

*– Нічога, затое не будзе цяжка ў паходзе, а пры працы будзеце мяняцца.*

*І сапраўды, за ўвесь пераход, які доўжыўся чатыры дні, ніхто не з'явіў асаблівага жадання несці дзесяцікілаграмовыя жалезныя ламы, а панеей, падчас працы, ніколі не адбывалася бойкі з-за інструментаў. Тыя, якім іх не хапала, казалі:*

*– Мы тут не для таго, каб працаваць: самае большае – мы можам даваць вам парады.*

*Так яны цягнуліся чатыры дні да Будслава, размяшчаліся на адпачынак у вёсках, набітых салдатамі. Ішлі без абеду, без хлеба, без чаю, расходуючы па дзве капейкі з грошай, зэканомленых у Віцебску на крадзеных рэчах, а Баранаў паціраў сабе рукі.*

*– Далібог, большага шчасця я і не жадаю. Я ўсё зэканомлю, яны нічога не патрабуюць. Яны, напэўна, ніколі не ядуць!*

*Так ён сказаў у Будславе сваёй сужыцельніцы на вуліцы перад камендатурай і смела ўвайшоў у барак. Палонныя разбегліся ў розныя бакі па паселішчы, каб адшукаць сабе ежу”.*

Аднак мясцовы камендант нічога не ведаў пра тое, што ў яго раёне будзе будавацца чыгунка. Параіў: *“...адвядзіце іх у Вілейку, дваццаць вёрст будзе адсюль. Там батальён Цвярскога палка. Праз тыдзень ён адтуль сыдзе. Як-небудзь размясціцеся, а я запытаю тэлеграмай Віцебск пра тое, што з вамі рабіць”.*

Чэхі прыйшлі ў Вілейку, якая ў рамане названа вёскай. І там ім месца не знайшлося. Сказалі ісці ў вёску Астравок.

Словам, цэлы тыдзень палонныя хадзілі па наваколлі, таму што адны казалі, што ў Будславе павінна будавацца нейкая дарога, іншыя – што не. І ўсё-такі пачалі працаваць: *“Гэта была цудоўная праца, якая пачалася пасля атрымання “сродкаў вытворчасці”. Ад вакзала па полі бегалі інжынеры, нацягваючы шнур, а дзясятнікі па лініі расстаўлялі палонных і загадвалі ім рабіць насып. Але як толькі прымаліся за працу, так інжынеры, лаючыся, працягвалі шнур у іншым накірунку, і дзясятнікі вялі іх у іншае месца”.*

*Чыгунка проста расла. Сотні сялян з навакольных вёсак, сагнаных паліцыяй, вазілі пясок для насыпаў. Насып прылягаў прамой, роўнай лініяй, даўжынёй у два кіламетры, без канала, і на паверхні зараз жа закопвалі шпалы і пракладалі каляіну. Інжынеры зніклі, а праз чатырнаццаць дзён усе ўбачылі другую роту, якая пракладала дарогу па кірунку да іх.*

*Затым пачаліся дажджы, снег знік. На палях утварылася возера, каля насыпаў сабралася вада ў велізарнай колькасці.*

*Усю ноч ліло, а раніцай, у непагадзь, палонных зноў пагналі на працу. Але калі яны прыйшлі да палатна, то ва ўсіх ад жаху параскрываліся раты, а Швейк сказаў:*

*– Ну вось, якраз у акурат! Праца тысяч людзей і коней знікла ў працягу адной ночы.*

*На палях з балота сумна тырчалі адны шпалы, якія падтрымлівалі перагнiўшыя рэйкі”.*

Рускія інжынеры раўлі на палонных, што тыя *“канавы не правялі, вадасцёкаў не праклалі!”*. І нават пагражалі расстрэлам.

*“Але ніводная з гэтых пагроз не была прыведзеная ў выкананне. На працягу наступных чатырнаццаці дзён вырас новы насып, у якім былі зробленыя папярочныя канавы, а ад Будслава па зноў пракладзеных рэйках ішоў паравоз і цягнуў за сабой некалькі пустых вагонаў.*

*Але далёка з імі ён не сышоў. У адным месцы каляіна так крута падымалася ўгору , што паравоз не мог адолець ўздыму. Потым прыехаў нейкі генерал з тэхнічнымі значкамі, агледзеў пуці, назваў інжынераў ідыётамі і загадаў на ўздыме зняць увесь насып”.*

А тым часам рускія рыхтаваліся да наступлення: *“І ў адзін з вечароў рускія пачалі атаку бамбардзіровак з гармат. Увесь гарызонт быў асвечаны ракетамі, гранатамі і шрапнеллю, зямля трэслася і гула, вокны звінелі, і ва ўсёй вёсцы ніхто не спаў”.*

Чыгунка ўсё ж была пабудаваная, і працоўная рота адправілася папраўляць дарогу ў іншым месцы. Адначасова палонныя наводзілі жах на жыхароў вёсак, дзе ім даводзілася спыняцца: *“Яны кралі ўсе, што ім траплялася пад руку. Цягалі зжатую збажыну ў адрынах, ўрываліся ў каморы, лавілі курэй, і ў рэшце рэшт ні адзін сабака не былі ўпэўнены ў тым, што яны не будуць з'едзены палоннымі”.*

Так што, прыгод Швейку на беларускай зямлі хапіла: ён нават паспеў у рэвалюцыйных падзеях паўдзельнічаць. Але ўсе нягоды ён пераносіў спакойна, ніколі не губляў гумару і падбадзёрваў сяброў тыпова швейкаўскімі прымаўкамі і гісторыямі. У рэшце рэшт, бравы салдат вярнуўся ў Чэхію. І прызначыў сябрам сустрэчу ў шынку са словамі: *“Яна, гэта вайна, з усімі гэтымі бітвамі, прамовамі і парадамі ні чорта не вартая. Надакучыла ўжо гэта!”*



Алесь ВЫСОЦКІ.
E-mail:
alvy@tut.by




Помнік Швейку ў Перамышлі (Польшча).




**Карэл Ванек нарадзіўся ў 1887 годзе ў горадзе Чэрні-Косцелец у 30 кіламетрах ад Прагі. У час Першай сусветнай вайны быў на рускім фронце, затым трапіў у палон. Па вяртанні на радзіму працаваў у перыядычным друку. Пасля смерці Яраслава Гашака па просьбе выдаўца скончыў чацвертую частку рамана, а пасля надрукаваў пятую і шостую – пра лёс Швейка ў рускім палоне. Памёр у 1933 ад сухотаў у Празе.**




Ілюстрацыя да рамана.



**Камп'ютары, TV, сродкі сувязі**

- **АБАНЕНЦКІЯ КАРТЫ «ТРЫКАЛОР» – СКІДКІ! АКЦЫЯ! ЛІЧБАВЫЯ ПРЫЁМНІКІ АД 350000 РУБ.** ІП Бойка Т.Л. УНП 691290609. **Т. (8-044) 7170634, (8-033) 3352045.***
- **АКТУАЛЬНА! АНТЭНА СПАДАРОЖНІКАВАЯ**. Абаненцкай платы няма! Растэрміноўка без працэнтаў. ІП Емяльянаў А.В. УНП 600361413. Т. (8-029) 7627898.*
- **АКТУАЛЬНА! АНТЭНА СПАДАРОЖНІКАВАЯ.** Высокая якасць адлюстравання. Гарантыя. ІП Емяльянаў А.В. УНП 600361413.Т. (8-029) 3326779.*
- **АКТУАЛЬНА! АНТЭНА СПАДАРОЖНІКАВАЯ.** Кантроль якасці. Т. (8-029) 5702212.*
- **АКТУАЛЬНА! АНТЭНА СПАДАРОЖНІКАВАЯ**. Трыкалор. Т. (8-029) 9056393 Вэлком.*
- **АНТЭНЫ СПАДАРОЖНІКАВЫЯ ТРЫКАЛОР, НТВ-ЛАЙТ, HD.** Растэрміноўка без %. ІП Бойка Т.Л. УНП 691290609. Т. (8-044) 7170634, (8-033) 3352045.*
- **АНТЭНЫ СПАДАРОЖНІКАВЫЯ ТРЫКАЛОР, НТВ-ЛАЙТ, ЛІЧБАВЕ ТБ.** Растэрміноўка без % да 12 месяцаў. ГД "Тройка", п. 536. ПГУП "Ліцэраль". УНП 690371107. Т. (8-0176) 738353, (8-029) 3900408, (8-029) 7728320, **www.literal.deal.by***

**МЭБЛЯ**

- Шафа 3-створкавая з атрэсоллю, бу. Т. (8-033) 6019834, (8-044) 5807704.

**ЖЫВЁЛА, ПТУШКА, ПЧОЛЫ**

- Каза высокаўдойная пакрытая. Т. (8-01771) 44651.*
- Козы, Маладзечна. Т. (8-0176) 736573.

**ІНШАЕ**

- Лодка новая, двухместная, 100 у.а. Т. (8-033) 6034106.*
- Мяса трусоў і маладняк. Т. (8-029) 7628438.*
- Конная фурманка. Т. (8-033) 3140643.

**КУПЛЮ**

**Музінструменты**

- Акардэон (Германія). Т. (8-029) 1439224.*

**Антыкварыят**

- **АНТЫКВАРЫЯТ, ФОТААПАРАТЫ, ГАДЗІННІКІ, ГРАМАФОНЫ, АБРАЗЫ, МЭБЛЮ, ФАРФОР І ІНШЫЯ СТАРАЖЫТНЫЯ РЭЧЫ.** Т. (8-0176) 765542, (8-029) 6564854.*
- **СТАРАЖЫТНЫЯ** карціны, іконы, манеты і іншае. Т. (8-029) 8719950.*
- **АНТЫКВАРЫЯТ ЛЮБЫ.** Прыеду да вас. Т. МТС (8-029) 7764214.*

**Іншае**

- 4-ы том Беларускай энцыклапедыі, выдав. "Беларуская Энцыклапедыя" імя Петруся Броўкі, 1996. Т. (8-029) 6550799.*
- Скуркі куніцы, пясца, лісы. Т. (8-029) 8552646.*

**ЗГУБЛЕНА**

- Таго, хто знайшоў у раёне гарадской бальніцы ў Маладзечне кашалёк і дакументы на імя Няхай Н.Д., просьба вярнуць за ўзнагароджанне. Т. МТС (8-029) 8765419.

**ІНШАЕ**

- 11 красавіка ў Палацы культуры г.Маладзечна – адзіны канцэрт непараўнальнай Таісы Павалій! Запрашаем на канцэртную праграму "Няхай вам пашанцуе ў каханні". УНП 690244105. Т. (8-0176) 752784.
- 9 лютага ў Палацы культуры г.Маладзечна – самае яркае і самае запатрабаванае шоу ў свеце "Жарсць Аргенціны". Білеты ад 200 тыс. руб. УНП 690244105. Т. (8-0176) 752784.
- **БЕЛАРУСКАЕ АДЗЕННЕ** ў розніцу па аптовых цэнах, вул.Б.Хмяльніцкага, 6 (каля калгаснага рынку). ПГУП "Эмілія Трэйд". УНП 691402887.*
- Запрашаем 16.01.2014 на канцэртную праграму "Танец - маё жыццё" Дзяржаўнага ансамбля танца Беларусі. Пачатак у 19.00. Білеты ад 40 тыс.руб. УНП 690244105. Т. (8-0176) 752784.
- Свяцільні, датчыкі, провад, кабель, рукаў металічны, труба гафрыраваная ПВХ, выключальнікі, разеткі і многае іншае рэалізуе магазін электраўстановачных вырабаў "Ампер" па адрасе: г. Вілейка, вул. 17 Верасня, 29, будынак "Дом Быту", 1 паверх. Наяўны, безнаяўны разлік. Індывідуальны падыход да кожнага кліента. ІП Малыш В.С. УНП 691167947.
- Шукаю спадарожнікаў у Хмяльніцкі, Беласток. Т. (8-033) 6344827, (8-029) 9491773.*

**ПРАЦА**

**ШУКАЮ РАБОТУ**

- Якаснае аздабленне кватэр, дамоў, столі пад афарбоўку, шпаклёўка, шпалеры і г.д. ІП Скуратовіч С.С. УНП 691507287. Т. (8-029) 2501031.*

# Чаму можна павучыцца ў нарвежцаў?

**Некаторыя дробязі з паўсядзённага жыцця скандынаўскай краіны варта было б пераняць у Беларусі**

**Нарвегія – гэта не толькі ф'ёрды і палярная ноч. Няхай краіна і прымацавалася тоненькім ланцужком уздоўж Скандынаўскага паўвострава, але цікавых рэчаў у сабе хавае безліч.**




Нават улетку нарвежскія горы ля Паўночна-Ледавітага акіяна пакрытыя снегам.

Пабываць там варта хаця б для таго, каб пабачыць горы ля Нарвежскага мора, пакаштаваць мясцовыя стравы і паслухаць такую дзіўную для славяніна нарвежскую мову.

Нарвегія лічыцца адной з самых дарагіх краін Еўропы, таму, выбіраючыся туды нават на пару дзён, трэба распланаваць свой бюджэт. Краіна не ўваходзіць у Еўрапейскі Саюз, затое ўваходзіць у Шэнгенскую прастору. Значыць, наведаць яе можна, маючы ў пашпарце Шэнгенскую візу.

Разлічваюцца там нарвежскімі кронамі (1 крона – каля 1500 рублёў) і размаўляюць па-нарвежску. Але з веданнем англійскай мовы можна адчуваць сябе ўпэўнена – ёй валодаюць нават у невялікіх мястэчках.

**Пачытаць газету і пагуляць з дзіцем, не трацячы грошы**

У Нарвегіі можна не баяцца штосьці згубіць. У большасці выпадкаў мясцовыя людзі вельмі сумленныя і дапамагаюць, як могуць.

Ва ўсіх крамах на ўваходзе ёсць адмысловая сцяна для бясплатных аб'яў. Там можна не толькі даведацца, хто ў горадзе арандуе ці шукае кватэру, але хто і дзе знайшоў ці згубіў штосьці. Аб'явы кшталту "знойдзена дзіцячая рукавіца" там не рэдкасць.

Цікавую дэталь можна назіраць і на дзіцячых пляцоўках. Ля пясочніц абавязкова будзе стаяць невялікая скрыня. Але ў ёй знаходзіцца не пясок, а... дзіцячыя цацкі.

Каб не насіць іх з сабой кожны дзень, нарвежкі пазбаўляюць сябе гэтага цяжару, пакідаючы формачкі і рыдлёвачкі ў скрынцы. Прычым усё, што ў ёй знаходзіцца, – для агульнага карыстання.

Таксама ў нарвежцаў існуе добрая традыцыя: прачытаў газету – перадай іншаму. Справа ў тым, што агульнанацыянальныя газеты каштуюць каля 5 еўра. Гэта не танна нават для Нарвегіі.

Таму мясцовыя жыхары робяць наступнае: набыўшы і прачытаўшы газету, яны пакідаюць яе ў людным месцы. Для гэтага пасуюць столікі кафэ і кавярняў, лавачкі ў парках, аўтобусныя прыпынкі.

**Як у іх вучацца ў школе?**

Варта сказаць яшчэ колькі слоў пра нарвежскія ўстановы адукацыі. Мне пашчасціла пабываць як у звычайнай мясцовай школе горада Тромсё, так і ва ўніверсітэце.

Першае, што кідаецца ў вочы – шматлікія лавачкі ва ўсіх калідорах. У школах паміж лавачкамі стаяць спецыяльныя палічкі з мясцовымі газетамі, ва ўніверсітэтах – яшчэ і невялічкія столікі, на якіх вельмі зручна арганізоўваць кава-паўзы паміж лекцыямі.

У школах ёсць асобны пакой, у якім месціцца літаральна склад канцылярскіх рэчаў. Тут можна знайсці самыя розныя сшыткі, каляровыя алоўкі, лінейкі, паперу, кардон, папкі, нажніцы.

Самы цікавы момант: усё гэта – для агульнага карыстання. Калі ў вучня скончыцца сшытак ці яму спатрэбіцца цыркуль, ён можа проста звярнуцца да настаўніка, які мусіць схадзіць на "склад" і прынесці вучню ўсё неабходнае.

Прычым колькасць узятага неабмежаваная, а грошы вяртаць не трэба. "Гэта ж такія дробязі, за што тут вяртаць?" – здзіўляюцца нарвежцы. Вядома, школьнай формы і партфеляў на "складзе" не знойдзеш, але ў нечым ён і сапраўды нагадвае наш тыповы школьны базар.

– Магчыма, гэта і кепска, – гаворыць мясцовы настаўнік. – Не ўсе дзеці цэняць тое, што ім даюць. Могуць за ўрок, гуляючыся, зламаць дзесятак алоўкаў. Але такіх дзяцей няшмат.

Ва ўніверсітэце таксама ёсць цікавы кабінет – пакой для адпачынку студэнтаў. Як расказалі мясцовыя знаёмыя, часцей за ўсё гэта нават не пакой, а 4-5 пакояў, злучаных разам. У адным знаходзіцца вялікі тэлевізар з мяккімі канапамі, у другім – настольны футбол, дартс, твістэр і іншыя гульні. У трэцім – своеасаблівая кухня з халадзільнікам, мікрахвалевай печкай, электрычным чайнікам, кававаркай. Такі вось "дамашні куточак" унутры ўніверсітэта.

Да таго ж у Нарвегіі ў кожнай навучальнай установе абавязкова будзе прынтар і ксеракс, карыстанне якімі таксама заўсёды бясплатнае. А каля прынтара – шафа са стосамі рознакаляровай паперы. Выбіраеш колер на свой густ – і друкуеш.

**Што ядуць у Нарвегіі?**

Асобная размова – пра нарвежскую кухню. Замарожаныя крэветкі, якія з'яўляюцца далікатэсам для многіх беларусаў, у Нарвегіі проста выкінуць у сметніцу. У марской краіне нельга дазволіць сабе есці замарожанае!

Марскія прадукты, асабліва рыба, падаюцца на стол кожны дзень. Да таго ж рыба ў Нарвегіі адносна танная. Адна знаёмая фінская сям'я, якая жыве на мяжы з Нарвегіяй, ездзіць у суседнюю краіну закупляць танную і свежую рыбу.

У асаблівай пашане ў нарвежцаў траска. Спосабаў яе прыгатавання хіба не меней, чым у беларусаў – рэцэптаў з бульбай.

Існуе ў Нарвегіі і свая сетка мясцовых кавярняў хуткага харчавання. Там таксама падаюць гамбургеры і смажаную бульбу. Але замест звычайнай булкі ў гамбургеры вотруб'евы хлеб, а бульба толькі крыху падсмажаная і падаецца ў смятане. Знайсці тут тыповы амерыканскі гамбургер трэба пастарацца.

Калі вы ясце на вуліцы, то варта быць пільнымі, каб не патрапіць пад нападзенне... птушак. Мясцовыя чайкі рады паласавацца хоць чым, і для гэтага яны не пасаромеюцца вырываць ежу проста з рук. Чамусьці асабліва даспадобы марскім птушкам прыходзіцца марожанае. Таму каля шапікаў з марожаным абавязкова стаяць таблічкі, якія папярэджваюць пра магчымае птушынае зладзейства.




Такую карціну ў Нарвегіі можна пабачыць і ў лесе, і ў цэнтры горада.

**Навошта хадзіць з лыжнымі палкамі летам?**

Калі ходзіш па вуліцах нарвежскіх гарадоў, кідаецца ў вочы, што многія людзі шпацыруюць па горадзе, трымаючы ў руках лыжныя палкі. І рухаюць імі так, быццам едуць на лыжах.

Насамрэч нарвежцы займаюцца скандынаўскай хадзьбой. Гэты занятак даўно набраў папулярнасць ва ўсёй Еўропе і, вядома, на радзіме – у Скандынавіі.

Хадзьба са спецыяльнымі палкамі вельмі карысная для здароўя, прызнаюць дактары. Пры такой фізічнай нагрузцы напружваюцца мышцы ўсяго цела, трэніруюцца сардэчныя мышцы і ў выніку павышаецца вынослівасць арганізма.

Тым больш займацца хадзьбой зручна паўсюль – з палкамі можна ісці і па цэнтры горада, нават дабіраючыся да працы, і на прыродзе.

**Аляксандра ПАРАХНЯ.**

# Дзейнічайце, і рака жыцця вынесе вас на бераг дабрабыту

**Палюбіце сябе, а гэта азначае, што не перагружайце арганізм, "падсілкоўвайце" яго вітамінамі, дазваляйце сабе час ад часу проста расслабіцца і адпачнуць.**



**АВЕН**. 2014 год дазволіць ажыццявіць шмат з таго, што задумалі. Асабліва гэта тычыцца другога паўгоддзя, бо пачынаючы з сярэдзіны лета вас чакае плённы перыяд. Усё, за што вы будзеце брацца, прынясе выдатны вынік. У год Каня зоркіададуць вам актыўнасці і ўпэўненасці ў сабе, вы можаце рэалізаваць самыя амбіцыйныя задумы. А вось у першай палове года вам трэба трымаць язык за зубамі, сваё меркаванне пры сабе, каб пазбегнуць канфліктаў і спрэчак. Гэтым вы зэканоміце і час, і нервы. І будзьце больш эканомнымі, бо неапраўданыя траты могуць стаць прычынай сур'ёзных брэшаў у бюджэце, а калі правільна дзейнічаць, рака жыцця вынесе вас на бераг дабрабыту. А яшчэ зоркі раяць пазбавіцца шкодных звычак.



**ЦЯЛЕЦ**. Год Каня будзе для вас знакавым. Вам прыйдуць у галаву цудоўныя думкі наконт таго, каб пазбавіцца ад шкодных звычак. Нехта захоча расстацца з лішнімі кілаграмамі, хтосьці захоча кінуць курыць. Але ўсе змогуць дабіцца свайго. У прафесійнай дзейнасці трэба ісці наперад, не здаваць пазіцый і дасягаць недасяжнага. Галоўнае, паверыць у сябе і адчуць сілы. З грашыма вы будзеце на "ты" і заўсёды будзе магчымасць папоўніць уласны бюджэт дадатковай крыніцай даходаў. Каханне стане проста лятаць вакол вас у паветры. Вы будзеце гатовыя кожную хвіліну дарыць сваім каханым радасць і аказваць знакі ўвагі, і вашы палавінкі ацэняць вашы вялікія гарачыя сэрцы. А халастыя змогуць мець шмат шансаў пафліртаваць, закахацца, "закруціць раман".



**БЛІЗНЯТЫ**. 2014 год – цудоўны час для таго, каб умацаваць сваё становішча ў грамадстве, павысіць узровень даходаў, завесці патрэбныя знаёмствы і аказаць незабыўнае ўражанне на супрацьлеглы пол. Зоркі раяць вам вызначыцца з тым, кім вы сябе бачыце. Год спрыяльны ў плане рамонту. Варта сканцэнтравацца на самарэалізацыі, а зносіны з сябрамі можна трохі скараціць. На здароўе скардзіцца не давядзецца. Гаспадар года на сваёй моцнай спіне пранясе вас з ветрыкам і міма вясенняга авітамінозу, і міма сезоннай прастуды. І нават тыя, хто пакутуе на хранічныя захворванні, адчуюць яўнае аблягчэнне. Тыя з вас, хто перажыве першую палову года і не расстанецца з каханымі, могуць лічыць, што выпрабаванне часам прайшлі паспяхова, і будаваць са сваім партнёрам доўгатэрміновыя адносіны.



**РАК**. У 2014 годзе ваш дабрабыт будзе залежаць ад вас саміх. Для тых, хто добра ведае, чаго хоча, зоркі створаць усе неабходныя магчымасці. Будзеце вы літаральна разрывацца паміж домам і работай. А блізкія крыўдаваць, што вы ўвесь час на рабоце. Зоркі тут раяць вам зрабіць свядомы выбар на карысць сям'і і ўласнага жыцця. Удзяляючы больш увагі блізкім, вы ўзновіце душэўную раўнавагу, а з часам прывядзяце ў парадак і рабочыя справы. Праблемы з самаадчуваннем будуць ўзнікаць. Печань, страўнік, сэрца – пад удар можа трапіць што заўгодна. Але непрыемнасцяў можна пазбегнуць, калі не чакаць, пакуль недамаганне "зваліць з ног", а своечасова заняцца прафілактыкай. Вас гаспадар года будзе выпрабоўваць на трываласць. Затое пасля кожнага "выпрабоўвання" вы будзеце атрымоўваць не толькі добры вынік, але і бонусы – прэміі, перспектыўныя знаёмствы, павышэнне ў пасадзе і г.д.



**ЛЕЎ**. У 2014 годзе ўдача абяцае сама плыць вам у рукі! Зоркі даюць адразу два козыры: папершае, актыўнасць і энергічнасць, а па-другое, удачлівасць у справах. Большая частка праектаў, за якія вы возьмецеся, апраўдае самыя смелыя чаканні. Энергія будзе біць ключом. Вы ў стане вырашыць усе пытанні, якія накапіліся за доўгія гады, і запусціць яшчэ пару-тройку новых глабальных праектаў, калі паставіце перад сабой такую мэту. Адзінае, каб на хвалі поспеху вы не занадта шмат увагі ўдзялялі амбіцыям на шкоду сваёй сям'і. У год Каня вы ўвойдзеце з адменным патэнцыялам здароўя. І ўжо з першых месяцаў пачніце яго бяздумна расходаваць... Але і нягледзячы на гэта сапсаваць сваё самаадчуванне не ўдасца. Адзінае, што вам пагражае, – гэта перастамленне і, можа, бяссонніца ці, наадварот, павышаная санлівасць. Карацей, год драўлянага сіняга Каня спрыяльны для вас ва ўсіх адносінах.

**Не шукайце лагічных падказак у розуму, не спрабуйце пралічыць свой шлях. Логіка проста не бачыць сапраўдных шляхоў, іх бачыць толькі сэрца.**



**ДЗЕВА**. Вы можаце дабіцца поспеху ў любой справе, за якую б ні ўзяліся. Год прынясе нямала сюрпрызаў. Прыйдзе нечаканая вестка, прычым адтуль, адкуль яе менш за ўсё можна было чакаць. Цяжка сказаць наперад, якога роду гэта будзе навіна, але тое, што яна парадуе ў фінансавым плане, без усялякіх сумненняў. Сітуацыя абяцае складвацца вельмі ўдачна, толькі зоркі раяць, што вам трэба сканцэнтравацца, энергічна ісці наперад і не разменьвацца па дробязях. І тады ў вас будуць усе шанцы для поспеху. Праблем з самаадчуваннем не прадбачыцца, а каб яны не ўзнікалі – захоўвайце рэжым свайго харчавання, сну і вядзіце барацьбу са шкоднымі звычкамі. Адзінокіх чакае каханне з першага погляду, а тыя, хто ўжо знайшоў пару, – перажывуць новы ўсплёск рамантыкі, які можа завяршыцца вяселлем. Сямейныя будуць складаць планы і паспяхова спраўляцца з паўсядзённымі клопатамі.



**ШАЛІ**. Год Каня прынясе вам нямала сюрпрызаў. Нават нягледзячы на тое, шмат вам супрацьпаказаныя глабальныя перамены, у жыццё ўварвуцца новыя ўражанні, падзеі, эмоцыі. Зоркі не раяць вам крута мяняць жыццё, каб пазбегнуць прыкрых накладак. У вас у новым годзе будзе шанс пабываць там, дзе вы ніколі не былі, набыць навыкі, убачыць і даведацца пра штосьці цікавае. У вас не будзе часу сумаваць! Парадуйце сябе здаровым харчаваннем, звярніцеся да добрага спецыяліста, каб ён параіў якія-небудзь прэпараты ці, магчыма, травяныя зборы, карысныя для прафілактыкі дзейнасці страўніка і кішэчніка. Хто шукае сваю палавінку, той сустрэне, прычым гэта будзе не новы знаёмы ці знаёмая, а даўнейшае каханне, якое некалі здавалася пачуццём усяго жыцця. У некаторых чакаецца прыбаўленне ў сямействе, а ў некага гэта будзе нават не другое дзіця, а трэцяе.



**СКАРПІЁН**. Вам у год Каня паказаны актыўны лад жыцця і клопат пра сябе. Не ўскладайце на сябе больш абавязкаў, чым можаце выканаць. А як зразумець, што нейкая работа лішняя? Ды вельмі проста – па ўласных адчуваннях. Калі ёсць сумненні ці ўнутранае нежаданне чымсьці займацца, значыць, і не трэба. Тым з вас, хто нарадзіўся ў год Каня, варта адправіцца ў падарожжа. Менавіта яно стане для вас лепшымі лекамі ад усіх праблем з самаадчуваннем і дрэннага настрою. У маі-верасні могуць адбыцца падзеі, якія падымуць ваша жыццё на якасна новы ўзровень. А пасля, нарэшце, наступіць перыяд доўгачаканай стабільнасці, калі не будзе сумненняў у заўтрашнім дні. Акрамя таго, зоркі надзеляць вас такімі карыснымі якасцямі, як таварыскасць і камунікабельнасць. У рабоце яны дапамогуць заводзіць кантакты з патрэбнымі людзьмі, а ў каханні зробяць вас чароўнымі, абаяльнымі.

**Верце ў сябе. Слухайце сваё сэрца і ідзіце туды, куды яно вас кліча. А кліча яно вас туды, дзе вам цікава, дзе чакае нешта захапляльнае, дзе адкрываюцца новыя магчымасці.**



**СТРАЛЕЦ**. У 2014 годзе поспех чакае найбольш упэўненых у сабе прадстаўнікоў вогненнай стыхіі. Год Каня надзеліць вас нестандартным і яркім поглядам на свет, што дазволіць праявіць крэатыўны падыход у шмат якіх пытаннях. Нечаканыя наватарскі рашэнні могуць здавацца навакольным дзіўнымі, але менавіта яны здольныя прынесці вам найбольшы поспех. У другой палове года вы адчуеце прыліў свежых сіл і творчага натхнення і, як вынік, – упэўнены рух наперад. Будзе ваш бюджэт папаўняцца прэміямі і дадатковымі ганарарамі. Увесь год вы будзеце адчуваць сябе бадзёра і энергічна. Не адмаўляйце сабе ў вітамінах і іншых карысных. Арганізм кожнага з вас падкажа, што яму трэба і што пажадана. Так што ідзіце за ўнутранымі позывамі. Жанатыя не павінны звяртаць увагу на ўласную падазронасць, бо ў іх няма падстаў азмрочваць ні сваё жыццё, ні жыццё блізкіх людзей.



**КАЗЯРОГ**. 2014 год абяцае быць спрыяльным для вас: год Каня будзе адзначаны душэўным камфортам, ураўнаважанай актыўнасцю і светлым, пазітыўным поглядам на свет. Гармонія ў душы ў спалучэнні з мэтанакіраванасцю і здаровымі амбіцыямі зробяць вас здольным на многае. У шмат каго з вас пачнуць спаўняцца самыя запаветныя жаданні, прычым абсалютна нечаканым чынам. І фінансавы бок жыцця вас не расчаруе. Вы можаце ўпэўнена планаваць любыя нагрузкі, бо патэнцыял вашага здароўя будзе вялікі і невычарпальны. Вядома, што вы працаголікі і нават самыя здаровыя даводзяць сябе да перастамлення. Таму пажадана не грэбаваць нармальнай колькасцю гадзін сну і прагулкамі на свежым паветры. У плане кахання вам гарантаваныя свежыя і яшчэ нязведаныя ўражанні. Вы прыйдзіце са сваімі каханымі да поўнай гармоніі, бо нарэшце знойдзеце ключыкі да сэрцаў адно аднаго.



**ВАДАЛЕЙ**. Для вас 2014 год абяцае быць умерана актыўным і дастаткова спакойным. Адзінае, на што вам варта звярнуць асаблівую ўвагу, – гэта на свой уласны настрой. Трэба, каб нічога вас не выбівала з каляіны, не вылівалася ў прыдзіркі і незадавальненні. У любых сферах жыцця – і ў рабоце, і ў творчасці, і ў каханні – вам будзе лягчэй не самому вынаходзіць ровар, а дзейнічаць па гатовых шаблонах і схемах. Супраціўляцца такому настрою не трэба: здаровы кансерватызм для вас – чароўная палачка-выручалачка і залог поспеху ў справах. Нядрэнна было б падумаць і пра змену дзейнасці. Вядома, не ўсім. Толькі тым, хто не атрымлівае задавальнення ад працы. Змена будзе азначаць адчувальнае павелічэнне даходаў і, адпаведна, якасна новы ўзровень жыцця. А яшчэ вы будзеце ўдачлівыя ў каханні і шчодра адораныя ўвагай супрацьлеглага полу. А тым, хто вырашыў расстацца, без шкадавання зрабіце гэта і шукайце свой сапраўдны лёс.



**РЫБЫ**. Вам абавязкова трэба шукаць тое, што будзе вас натхняць, напрыклад, спорт, падарожжы, навуковыя распрацоўкі. Тыя, хто нарадзіўся ў год Каня, будуць шмат ездзіць. На працягу года зоркі ўсіх вас надзеляць напорыстасцю, таварыскасцю, арганізатарскімі здольнасцямі. Гэтыя рысы будуць праяўляцца ва ўсіх сферах жыцця, забяспечваючы вам падтрымку навакольных і ўменне дабівацца свайго. Жаданне ж паваляцца на канапе, бяздумна паглядзець тэлевізар ці змарнаваць час у сацыяльных сетках трэба адразу адмятаць. Вы павінны быць максімальна актыўныя. Можа, вы і не заробіце шмат грошай, але ў вас знойдуцца сябры, спонсары, добразычлівыя, якія дапамогуць вам вырашыць фінансавыя праблемы. Што ж, як кажуць, не май 100 рублёў... І адстойвайце ўласную незалежнасць, бо дабрынёй і безадказнасцю вашай хто толькі не карыстаецца. А здароўе... Не думайце пра хваробы, і яны забудуць пра вас.

Марыя УРБАНОВІЧ.





ГІСТОРЫЯ

# Французскі легіянер Зіновій Пешкаў змагаўся ля Залесся

**СМАРГОНЬ. МАЛАДЗЕЧНА. На парыжскім праваслаўным некропалі Сент-Жэнеўе-дэ-Буа знаходзіцца магіла, на помнікавым камені якой выбіты просты надпіс: "Зіновій Пешкаў, легіянер, 16.10.1884 – 27.11.1966".**

На яго пахаванні прысутнічалі прадстаўнікі французскай палітычнай і ваеннай эліты, а труну суправаджалі легіянеры, якія неслі амаль паўсотні ўзнагарод нябожчыка, сцягі рускіх добраахвотнікаў дзвюх сусветных войнаў. На развітанне генерал Анры Труая ад імя ўсяго французскага войска прамовіў: "Аднарукі Пешкаў быў у салдат адным з самых папулярных афіцэраў: невялікага росту, вельмі дынамічны, вытанчанай культуры, зацікаўлены самымі рознымі праблемамі, вольна размаўляў на пяці мовах і ветлівы ў абыходжанні". А ў адным са шматлікіх некралогаў было адзначана, што "не стала Зіновія Пешкава, вялікай асобы, яркай фарбы ў палітры "Вольнай Францыі".

## Цураўся поглядаў брата-камуніста

Калі імя гэтага рускага эмігранта, брыгаднага генерала французскай арміі, было добра вядомае не толькі ў Францыі, але і за яе межамі, то ў той жа час яно было аддадзена забыццю і замоўчванню ў Савецкім Саюзе. Мінуў час, і да сучасніка вярнулася гісторыя жыцця гэтага неардынарнага чалавека, сведкі мінулай эпохі, прыёмнага і хроснага сына пісьменніка Максіма Горкага, старэйшага брата будучага старшыні Усерасійскага Цэнтральнага выканаўчага камітэта Якава Свярдлова.

У час маладосці ён хутка адышоў ад рэвалюцыйнага асяроддзя Горкага, а радыкальных поглядаў свайго брата не прымаў і цураўся ўсё жыццё. Падзеі Першай сусветнай вайны кардынальным чынам паўплывалі на лёс эмігранта. Уступіўшы ў шэрагі Замежнага легіёна, ён у хуткім часе трапляе на перадавую, дзе яму прысвойваюць званне капрала і прызначаюць камандзірам 2-га пяхотнага палка. Не звяртаючы ўвагі на нацыянальнасць, валанцёры палка легіянераў мужна змагаліся ва ўпартых баях пад Рэймсам, дзе страцілі больш за палову свайго асабовага саставу.



Фота забяспечана Уладзімірам ПРЫХАЧАМ.

Зіновій Пешкаў, легіянер, сябра французскага прэзідэнта Шарля дэ Голя.

## Шарль дэ Голь выратаваў жыццё

Менавіта ў гэтых баях 9 мая 1915 года Пешкаў быў цяжка паранены і страціў правую руку. Санітары, якія прызналі яго далейшы лёс безнадзейным, не згаджаліся на эвакуацыю з поля бою, але толькі заступніцтва нікому тады невядомага лейтэнанта Шарля дэ Голя паспрыяла выратаванню салдата.

Зіновій Пешкаў выжыў, а з дэ Голем у іх завязалася сапраўднае сяброўства на ўсё жыццё. За праяўленую мужнасць і адвагу маршал Жафр 28 жніўня 1915 года падпісаў загад аб узнагароджанні капрала Пешкава Ваенным крыжам з пальмавай галінай.

## У Маладзечне сустрэўся з Керанскім

Пасля выздараўлення і адпачынку лейтэнант Пешкаў вяртаецца на службу і як прадстаўнік французскай місіі накіроўваецца ў ЗША. Ад мая 1917 года ён ужо прадстаўнік ваеннай місіі Францыі пры Часовым урадзе Расіі. У ліпені таго ж года накіроўваецца да галоўнакамандуючага Заходняга фронту Антона Дзянікіна для дапамогі ў падрыхтоўцы рускага наступлення пад Смаргонню і Крэвам.

4 (17) ліпеня 1917 года разам з іншымі прадстаўнікамі замежных місій сустракае на маладзечанскім вакзале ваеннага міністра і тагачаснага кіраўніка Часовага ўрада Аляксандра Керанскага. Пасля прыёму дэлегацыі і пасяджэння армейскага камітэта міністр выязджае ў палкі фронту. У гэты і наступны дзень адбываецца сумеснае наведванне і агітацыя ваенных фарміраванняў, якія праз некалькі дзён павінны былі прыняць удзел у ліпеньскім наступленні 1917 года.

З успамінаў начальніка штаба 28 пяхотнай дывізіі падпалкоўніка Якава Маркавіча Лісавога вядома, што Керанскі каля станцыі Залессе 4 (17) ліпеня правёў агляд і выступіў перад прадстаўнікамі адзначанай дывізіі.




Малюнак забяспечаны Уладзімірам ПРЫХАЧАМ.

Фотасхема размяшчэння і бою часцей 28-й пяхотнай дывізіі 7-12 ліпеня 1917 года.

**Дывізію ў гэты час узначальваў генерал-маёр і Георгіеўскі кавалер Яўген Васільевіч Энвальд, дзед добравядомай сёння кінаактрысы Марыны Владзі.**

## Вялі радавых на пазіцыі

Праз дзень у штаб 28-й пяхотнай дывізіі, які знаходзіўся на станцыі Залессе, зноў вяртаюцца прадстаўнікі саюзных армій. Французскую службу прадстаўляюць палкоўнік Рампон і лейтэнант Пешкаў, а італьянскую – вядомы мастак і скульптар маркіз Клімент Арыго, якога ў штабе дывізіі чамусьці празвалі ахрысцілі "маркіз Карлоцці". У планы прадстаўнікоў ваеннай місіі ўваходзіў агляд участка прарыву фронту, вызначэнне пазіцый для атакі і знаёмства з магчымасцямі войска.

У гэты ж самы дзень адбылася падзея, якая моцна ўразіла і запала ў памяць рускіх салдат і афіцэраў. Штурмавы батальён 28-й пяхотнай дывізіі 20-га армейскага корпусу ў чатыры гадзіны дня павінны быў са станцыі Залессе адправіцца на пазіцыі, якія былі размешчаныя на поўдні ад Смаргоні, паміж вёскай Шалудзькі (цяпер вёска Светач) і Кунава.

Перад выстраенымі 40 афіцэрамі і 800 салдатамі Зіновій Пешкаў звярнуўся з наступнай прамовай. "Родныя браты! Мы, замежныя прадстаўнікі Францыі і Італіі, лічым для сябе вялікім гонарам прывітаць вас, храбрацоў, якія выпраўляюцца на пазіцыю... Мы змагаемся за адну агульную справу: за свабоду, роўнасць і братэрства ўсіх народаў, за іх квітненне, за правы жыць і вольна дыхаць. ...Памятайце, браты, што ад поспеху гэтай барацьбы залежыць ваша і наша свабода, і перамагчы цяпер вельмі лёгка, так як вораг не мае моцы – трэба яшчэ толькі адзінае намаганне".

Пасля іншых прамоў і пажаданняў прадстаўнікі замежных місій папрасілі дазволу стаць побач з радавымі ў строй і павесці будучых самаахвярных герояў на пазіцыі. Такі дазвол быў атрыманы, і замежныя афіцэры разам з рускімі салдатамі адправіліся ў бок Шутавічаў.

**У час наступлення ён наведвае 38-ы армейскі корпус пад Крэвам, дзе разам з камандуючым корпусу генералам Ю. Доўбар-Мусніцкім і іншымі прадстаўнікамі замежнай місіі сфатаграфаваўся на фоне нямецкіх ваеннапалонных.**

## Забаранілі заклікаць да перамогі

Вечарам палкоўнікі Рампон і Арыго ад'ехалі са штаба, а лейтэнант Зіновій Пешкаў застаўся і яшчэ некалькі дзён правёў у 28-й і суседніх дывізіях. Як адзначаў ва ўспамінах Я.Лісавой: "Зіновій Пешкаў часта выязджаў на пазіцыі, дзе знаёміўся з сапернікам, нашымі войскамі, трапляў пад абстрэлы, вяртаўся стомлены, але ні на адно імгненне вясёлы настрой не пакідаў яго".

Як вядома, вакханалія ў рускай арміі прывяла да поўнага правалу ліпеньскага наступлення 1917 года і ніякае "адзінае намаганне" не магло ў тых умовах прынесці плёну. Далейшыя адносіны з гэтай рэвалюцыйнай уладай ў Зіновія не складаліся, Керанскі забараніў яму выступаць перад салдатамі з далейшымі заклікамі весці вайну да канчатковай перамогі. У адказ на гэты загад Пешкаў ад'язджае ў Францыю.

## Хросны сын Максіма Горкага

Так скончыўся яшчэ адзін сумны эпізод у ваеннай кар'еры вядомай сёння асобы. Гэта гісторыя адбылася ў нашым рэгіёне, і пра яе варта памятаць. У савецкія часы амаль у кожным беларускім райцэнтры была вуліца імя Максіма Горкага, бо такія былі ў той час ідэалагічныя ўстаноўкі.

Безумоўна, творчасць вядомага ў свеце рускага пісьменніка і мысліцеля заслугоўвае і сёння нашай удзячнай памяці, хоць сам Горкі і не наведваў нашай роднай старонкі. Усім нам, а асабліва жыхарам аднайменнай вуліцы ў Смаргоні, завулка і чатырох праездаў Горкага ў Маладзечне, з'яўляецца яшчэ адна нагода ўспомніць не толькі рускага пісьменніка і драматурга, але і яго хроснага сына Зіновія Пешкава.

**Уладзімір ПРЫХАЧ,**
**Смаргонь.**

---

КАЛЯНДАР

**4 студзеня.** 285 гадоў з дня нараджэння Літавора Яўхіма Ігнацыя Юзафа Храптовіча (1729 – 1812), грамадскага і дзяржаўнага дзеяча, філосафа, публіцыста, паэта.

***

**145 гадоў** з дня нараджэння Ядвігіна Ш. (сапр. Лявіцкі Антон Іванавіч, 1869 – 1922), беларускага пісьменніка, аднаго з пачынальнікаў беларускай прозы. Нарадзіўся ў маёнтку Добасна (Магілёўшчына) у сям'і ўпраўляючага маёнткам. Вучыўся на медыцынскім факультэце Маскоўскага ўніверсітэта, за ўдзел у студэнцкіх хваляваннях у 1890 годзе быў арыштаваны і выключаны з універсітэта. Сядзеў у турме. Вярнуўшыся ў Беларусь, працаваў памочнікам правізара ў Радашкавічах. Па стане здароўя пакінуў працу і пераехаў з сям'ёй у бацькоўскі фальварак Карпілаўка (каля Радашкавічаў), дзе і правёў большую частку жыцця. Памёр у Вільні. У Радашкавічах Ядвігіну Ш. устаноўлены мемарыяльны камень. Лепшую частку яго мастацкай спадчыны складаюць алегарычныя апавяданні, апавяданні-байкі, разнастайныя па тэматыцы і эмацыйнай афарбоўцы. Звяртаўся і да сацыяльна-псіхалагічных апавяданняў. Творы Ядвігіна прасякнуты спачуваннем беларускаму селяніну, гарачым імкненнем садзейнічаць грамадскім пераменам у лёсе беларускага народа, пратэстам супраць сацыяльнай несправядлівасці. Яму належыць першы беларускі раман "Золата" (нясконачаны), які вызначаецца напружаным драматычным сюжэтам.

***

**7 студзеня.** Раство Хрыстова (праваслаўнае).

***

**8 студзеня.** 90 гадоў з дня нараджэння (1924) Алеся Савіцкага (Аляксандра Ануфрыевіча), беларускага пісьменніка.

***

**60 гадоў** назад (1954) у Маладзечне ўведзена ў эксплуатацыю мэблевая фабрыка (з 1977 года – у Мінскім вытворчым мэблевым аб'яднанні, з 1992 – Маладзечанскае арэнднае вытворчае мэблевае аб'яднанне, з 1994 года – закрытае акцыянернае таварыства "Маладзечнамэбля").

***

**9 студзеня. 85 гадоў** з дня нараджэння Івана Стасевіча (1929 – 1998), беларускага мастака, педагога, заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі.

**Падрыхтавала**
**Марыя БЕРАСНЕВА.**

# Як білі кабана на Каляды



Кабанчыка смаляць Уладзімір Крот (злева) і Пётр Мароз. Маладзечна, 1980 год.

**ВІЛЕЙКА. Даўней у простага селяніна былі два самыя вялікія і чаканыя святы як для душы, так і для цела – Вялікдзень і Каляды. Але святкавалі іх зусім па-рознаму.**

Каляды асацыяваліся з рытуалам разбірання парсюка. Яшчэ зусім нядаўна вясковыя людзі на Вілейшчыне, у вёсках вакол Жараў, напрыклад, у Малышках, пры вітанні ў гэтыя чароўныя дні абавязкова пыталіся "А ці маеш каляду?", "А ці добрая сёлета ў цябе будзе каляда?"

## Білі кабана па Месяцы

Да каляды рыхтаваліся загадзя. Даўней, дзе-нідзе і цяпер, гэта быў і ёсць цэлы магічны рытуал са звычаяў, прыкмет, варажбы. У апошні месяц, каб сала і скурка былі мякчэйшыя і смачнейшыя, кабана пераводзілі на дыету – спецыяльна запаралі ў печы жыта. Калі карова не была яшчэ ў запуску, нават забельвалі ежу, як маламу парасяці, і замешвалі ў страву конскі гной (ад яго і сала смачнейшае, не горш за ўкраінскае, і паразіты выводзяцца).

Выбіралі ж час для біцця кабана да Каляд у адмысловы час, калі сыходзяцца зоркі і надвор'е – толькі на поўню ці на растучы месяц. Не павінна было быць адлігі, і каб не занадта сцюдзёна. Нават дзень тыдня меў значэнне, білі пераважна ў пятніцу ці суботу, часам у панядзелак.

Цяпер майстры-байцы могуць вельмі хутка спарадкаваць і разабраць кабана, нават за 2-3 гадзіны. А даўней не спяшаліся. Гадоў 50 таму смела можна было казаць, што усе мы з вёскі. Памятаю свайго дзеда Капрука, які камандаваў усім працэсам. Загадзя, з вечара, здымалі і мылі дзверы з хлеўчука, на якіх будуць разбіраць тушу. Да рання, калі яшчэ было цёмна, цягалі ваду са студні, палілі печ, дзе ў вялікіх катлах рыхтавалі вар: гарачай вады трэба было многа. Раніцай прыходзіў баец і памагатыя.

## Спачатку з кабаном баец знаёміўся

Каб мяса і сала былі смачнымі і мяккімі, трэба было не спужаць парсюка, зрабіць справу раптоўна. Таму баец адзін на адзін далікатна знаёміўся з кабаном – нібы з жанчынай. Баец заходзіў у хлеў, чухаў яго за вухам. Так вось чухаючы, хвалячы і адначасова просячы прабачэння, чакаў, каб кабан лёг, разамлеўшы ад ласкі, на бок.

Тады асцярожна адзяваў пятлю з ільняной моцнай вяроўкі на заднюю нагу, вышэй галёнкі. Хутка падгіналася пярэдняя нага, і вугальком ці крэйдай, калі парсюк быў рабы, ставіў метку ў тое месца за лапаткай, куды даставаў пярэдні капыт. Гэта метка адпавядала месцу, пад якім было сэрца.

Байцу трэба было трапіць у сэрца самым найлепшым чынам. Няўдалым лічыўся не толькі ўдар міма сэрца, але калі лязо пападала у клапан, і кабан, нават не піснуўшы, моўчкі падаў, а сэрца адразу станавілася. Цяжкая рука, казалі пра такога байца. Тады мяса і сала не былі дастаткова абяскроўленымі. Да таго ж трэба было ўлучыць так, каб і кабан доўга не пакутаваў, не вішчаў болей за хвіліну.

На Вілейшчыне ўсе жанчыны ў гэты час заходзілі ў хату. Калі яны пачынаюць шкадаваць, то кабан доўга пакутуе, нават калі і сэрца перарэзанае папалам. Не зусім было добра, калі гаспадар сам біў свайго кабана, на вёсцы такіх людзей лічылі скваплівымі.

## Забівалі па-рознаму

Спачатку вырашалі, што рабіць з кабаном, – біць або рэзаць. Звычайна рэзалі кабана на продаж – каб выпусціць усю кроў, каб мяса было святлейшае, тады яго лепш куплялі на кірмашы. У Журыхах ёсць спецыяліст, які валодае партызанскім метадам, як зарэзаць без нажа.

Гэты метад быў вельмі папулярны ў гады нямецка-фашысцкай акупацыі, калі трэба было рабіць пагалоўшчыну без шуму, бо немцы загадвалі абавязкова здзіраць з кабаноў скуру і здаваць ім на перапрацоўку. Для гэтага драцінай заходзілі пад лапатку, і кабан ходзіць, пускаючы на зямлю невялікі струменьчык крыві, нават не віснуўшы, пакуль не зваліцца замертва.

На Мядзельшчыне і Пастаўшчыне звычайна спачатку аглушалі кабана ўдарам у лоб калатушкай – драўляным молатам. На Вілейшчыне, як і па ўсёй Беларусі, часцей колюць кабана ўдарам свайкі і нават нажа ў сэрца, каб можна было збіраць кроў для гатавання страў, радзей страляюць, наставіўшы стрэльбу ў вуха.

## Кабаны маглі ажыць

Пасля таго як кабан пераставаў вішчаць, баец заходзіў з мужчынамі ў дом і выпіваў. Налівала і падносіла кілішак гаспадыня. А хто-небудзь заставаўся, каб глядзець за кабаном. Вялікай абразай для байца было, калі кабан уставаў пасля першага куфля. Быў у суседняй вёсцы выпадак, калі кабан "аджыў", а ніхто не застаўся для нагляду. Пасля заўсёды парсюка прывязвалі вяроўкай за заднюю нагу да грушы.

**З добрага кабана выходзіла 60 тонкіх і 6 тоўстых кілбас.**

Перад смаленнем кабана ў ляпу яму клалі спецыяльны камень ці паўцагелачак, каб не апалі кішкі і даць выхад паветру. Цяпер найболей смаляць з дапамогай газу ці бензінавай машынкі. А даўней смалілі раўнавай ці кулявой саломай – спачатку кабана паварочвалі на два сцягны, на жывот, абкладалі ўсю тушу ахапкамі простай мятай саломы і падпальвалі. Як салома згарыць, кабана кулялі на бок, звязвалі ногі, уздоўж прасоўвалі жэрдку і падымалі на казлы, а знізу раскладалі вогнішча.

## Выдалялі шчаціну

Пасля смалення скуру абскрабалі ад чорных вугалькоў нагару, попелу і сажы. Непадалёк распальвалі дабяла спецыяльны жалезны інструмент, які зваўся нарог. Яго з вогнішча даставалі кавальскімі абцугамі і праводзілі павольна уздоўж тулава. Скура аж смылела дымам, з'яўляўся пах печанага.

Потым саскрабалі чорныя нажамі і палівалі цёплай вадой, абкладвалі саломай ці анучамі, "каб кабан адпацеў" і толькі потым, праз чвэрць гадзіны, скрэблі, каб на скуры нідзе не засталося шчаціны.

Пачынаўся трэці этап разбірання. Найперш ад тулава адразалі галаву і ножкі, бо з галавы рабілася галоўная страва на Каляды. Ножкі (капыты) дазвалялася адрэзаць найбольш смялейшым хлапчукам. Той, хто адрэжа, меў права ўзяць сабе потым трафей – костачку ад ножкі, з якой рабілася з дапамогай ніткі музычная цацка –"вуржалка".

## Рытуальныя стравы з кабана з часоў паганства

Потым ад галавы адразалі частку вуха – гэта была самая першая страва. Ад гэтай традыцыйнай калядной стравы, відаць, і нарадзілася алегорыя – пра байцоў у Крывым Сяле казалі: "пайшоў на вушы", "вярнуўся на вушах", хаця у суседняй Рабуні таксама маглі алегарычна казаць пра байца – "пайшоў на печань". Цікава, што печань і нават сала даўней каштавалі сырой і яшчэ цёплай.

Мазгі былі другой рытуальнай стравай з асвежаванага кабана на патэльні.

Пасля выразалі прамавугольнікам грудзіну. З грудзіны сала з мясам аддзялялі адразу ад косткі, і гэты кавалак адразу аддавалі ў хату для рытуальнай трэцяй стравы на патэльні.

Кроў была першай рытуальнай стравай сырадзення, але ж з крыві рабілі таксама абавязкова рытуальную страву на патэльні нумар адзін – тонкія бліны з крывёй, мукой і цыбуляй (у вёсцы Селішча, што была некалі амаль на беразе Вяллі, рабілі адзін вялікі тоўсты блін на ўсю патэльню).

Звалі гэтыя аладкі дзенідзе "цыганы". Рытуальнае забіццё парсюка прыходзілася на час старажытнага свята зімовага сонцавароту, і ў звычаях нашага краю захаваліся рэшткі паганскага ахвяравання жывёлы богу Каляндзе. Так вось ад пакалення да пакалення захавалася традыцыя вырабляць першую рытуальную страву, якая нагадвае форму менавіта сонца – круглыя аладкі.

Гэтыя аладкі былі абрадавай ежай, а ўсяго рабілі на Каляды 12 страў – па колькасці месяцаў у годзе, дык нават у дзень пагалоўшчыны стараліся таксама прыгатаваць 12 страў.

## Як спарадкавалі – за стол

У Ваўкалатах, што мяжуюць з Вілейскім раёнам, з крыві абавязкова рабілі вельмі смачную першую страву – чорную поліўку. Сакрэт смаку быў у тым, што з бочкі з кіслай капустай злівалі расол, дадавалі туды трохі крыві і потым дадавалі папярэдне падсмажанай мукі. Як і ў кожную поліўку, дадавалі сушаныя баравікі.

Потым аддзялялі вантробы, а пасля чакалі, пакуль з тушы перастане ісці пара. Затым аддзялялі кумпяк, сала і іншыя часткі.

Пасля таго, як кабана спарадкавалі, гаспадыня запрашала байца і памагатых у хату за стол. Частавалі гасцей калядными стравамі, прыгатаванымі на патэльнях у печы. Байца садзілі на самае ганаровае месца, у кут, дзе звычайна сядзеў гаспадар. Налівалі гарэлкі. На стале абавязкова стаяла кіслая капуста. Потым на цэнтр стала ставілі па чарзе патэльні. Асноўная патэльня – з пячонкай.

## Стравы з кабана

За дзве ночы мяса астывала і саспявала, і тады ўжо рабіліся пальцам пханыя тонкія кілбасы. Варта адзначыць тры стравы:

- печанёўку (крышылі лівер, лёгкія, ныркі, касу, сэрца, сала, а печань надзіралі на тарцы для буракоў, усё перамяшалі са спецыямі і пхалі ў кішкі),
- крываўку (у кішку налівалі кроў разам з адваранай грэчкай і засмажанымі скваркамі, калі не мелі грэцкіх круп, то крываўку рабілі напалам з дзёртай бульбай),
- проста кішку (надзёртую бульбу са скваркамі і падсмажанай цыбуляй).

Кумпяк, як і тоўстыя кілбасы, паляндвіцы і нават сала, пасля прасушкі заварочвалі у льняную тканіну, марлю ці вафельныя ручнікі, вымачаныя у салявым растворы, абмотвалі ніткай, і калі палатно высыхала, на паверхні ствараўся суцэльная салявая скарынка, якая не давала высыхаць і ялчэць ні мясу ні салу, абараняла ў спякоту ад мух.

Паляндвіцы сяляне з гумарам звалі "не сваё мяса", бо гэты далікатэс для сваіх не прызначаўся, а толькі для важных гасцей.

## Сёння калядны стол не такі

Смачнейшымі даўней былі калядныя стравы з парсюка і таму, што гатаваліся у печы, бо згатаваныя на газавай пліце яны чамусьці робяцца быццам ненатуральныя. Адно толькі – печ трэба паліць не іначай як альховымі дровамі, ад якіх дух у печы самы апетытны. У Асіпавічах, на Вяллі, нават самая бедная ўдава мела два ці тры ахапкі "калядных дроў" для прыгатавання страў з калядная парсюка.

Цяпер амаль не трымаюць парсюкоў да Каляд, вельмі цяжкая гэта і нявыгадная справа для нямоглых старэнькіх вяскоўцаў. Цяпер толькі і можа запрасіць на свежыну мой сябра з Асіпавічаў **Уладзімір Мартынаў**. Ні ў якім рэстаране не пакаштуеш такіх смачных страў са свойскай калядзы, як зробленыя яго жонкай **Наталляй Паўлаўнай**.

**Міхаіл МІХАЛЕВІЧ, Вілейка.**

**Артыкул цалкам чытайце на сайце Rh.by**

# Лабадзенка: **“Барадулін не застыў, як камар у бурштыне”**

**У снежні ўпершыню пабачылі свет рукапісы Рыгора Барадуліна. Выданнем кнігі займаўся беларускі журналіст і блогер Глеб Лабадзенка. Сам майстра слова, атрымаўшы кнігу, сказаў: “Я чакаў усякага, але такога…”.**

Такога не чакаў нават сам Лабадзенка. Ён рыхтаваў кнігу рукапісных вершаў, а атрымаўся цэлы кніжны кактэйль рукапісаў, аздоблены кадрамі з жыцця паэта. Ды для большага разумення пададзены разам з голасам яго сучасніцы народнай артысткі Беларусі **Зінаіды Бандарэнкі**:

– Чытаць было цяжка, таму што Рыгор Іванавіч паэт, як кажуць, ад Бога. Быццам бы ўсё разумееш, аднак яго знакі прыпынку, яго асноўная думка не ў тым месцы, дзе іх чакаеш. Вершы ўсе незвычайна цікавыя і настолькі запалі мне ў душу….

Спачатку спадарыня Зінаіда спрабавала чытаць рукапісны тэкст. Аднак сходу не атрымалася, і спецыяльна для яе тэкст надрукавалі.

– Тое, што я зрабіла агучванне вершаў, наканавана Богам. Мне проста пашчасціла! Дагэтуль пад уражаннем. Напярэдадні пісала чарговы ліст Мікалаю Аўтуховічу ў турму. Пад руку трапілі два вершы Рыгора Барадуліна, прысвечаныя маці і жанчыне, якія я і дадала да ліста. У адказе ён мне напісаў, што вершы глыбока кранулі і ён вельмі ўдзячны за іх. Прыгадваў, што ў яго турэмным альбоме першае фота з аўтографам Барадуліна.

Ідэя стварыць рукапісны зборнік любімага паэта ў Глеба спела ўжо даўно. Пачыналася ўсё з аўтографа і “дзякуй”, напісаных рукой Барадуліна на паштоўках падчас акцый у яго падтрымку. У некаторых кнігах народнага паэта можна сустрэць адзін-два рукапісныя вершы. Але канчатковым штуршком стаў выхад “дзіцячай заМовы” Глеба, дзе ўсё напісана і намалявана проста ад рукі аўтара.

– Калі выйшла “заМова”, дзядзька Рыгор сказаў, што такога балагану яшчэ не бачыў, – прыгадвае Глеб. – Тады я вырашыў паўтарыць прыём “рукапіснасці”. Вядома, калі б нейкі малады паэт выдаў такую кнігу, гэта было б выпендрожам. Барадуліну ж нікому нічога даказваць не трэба. Ужо зразумела, што гэта класік, які стаіць побач з Купалам ды Багдановічам. Таму няхай ніхто не падазрае Барадуліна, што ён сам з сабой так носіцца. Я ўдзячны, што ён пагадзіўся на гэта. Натуральна было б сказаць: “Не, ну слухай, я сур'ёзны чалавек, такімі рэчамі займацца”. Усе, хто ведаюць Барадуліна, пагодзяцца, што гэта не пафасны чалавек, не самаўлюбёны, што гэта вельмі самаіранічны чалавек.




Фота Настассі РОЎДЫ.

У кнізе рукапісаў Барадуліна можна сустрэць і крэсленні, і малюнкі.

### Як да рукапісаў прыклаліся здымкі і дыск

Ідэі па афармленні нараджаліся ў Глеба ўжо падчас працы з выдаўцом **Ігарам Віркоўскім**. Ніякіх фотак у кніжку дадаваць не хацелі, бо яна – імітацыя нататніка. Доўга думалі, як прыкласці здымкі, але тут апошняе слова засталося за выдаўцом.

– Спадар Ігар мне сказаў: “Давай зробім чахол і ўсё ўкладзём туды”, – распавядае Глеб. – Потым стала зразумела, што не ўсе сходу могуць чытаць вершы. Почырк у Барадуліна ўсё-ткі не школьны. Хацеў зрабіць друкаваныя падрадоўнікі, але падумаў, што мы сапсуём ідэю ўсёй кніжкі, бо атрымалася б нейкая расшыфроўка рукапісаў. Так дадалося аўдыё.

**Нядаўна Глеб Лабадзенка стварыў сайт Барадуліна baradulin.by (паставіць спасылку). Туды ён збіраецца ўвесь час вывешваць новыя вершы паэта.**

– Некаторыя з іх друкуюцца ў “Дзеяслове”, “Новым часе”. Аднак такіх пляцовак засталося няшмат. У дадатак, друкуюць падборку, вершаў дзесяць. Барадулін жа піша ўвесь час. Цяпер чытачам не трэба будзе чакаць чарговых падборак альбо кніжак. Ёсць новы верш – праз тры дні ён ужо ў інтэрнэце.

Аўдыё вершаў для кнігі “Лепей” збіраўся выкласці выключна туды. Аднак ізноў выдавец сказаў сваё слова: прапанаваў прыкласці дыск.

– Таму я вельмі ўдзячны шаноўнаму выдаўцу Ігару Віркоўскаму за тое, што дапамог вельмі ўдала ўвасобіць хаатычны набор маіх ідэй.

### Як вокладка ледзь не стала дошкай “Вышук”

Цяпер на вокладцы зборніка “Лепей” сядзяць тры Барадуліны рознага ўзросту: у маладосці, у сталасці і цяпер. Першапачатковая ідэя ў Глеба была іншая: змясціць каля 20 пашпартных фота, каб было відаць, як мяняўся Барадулін.

– Мастак **Аляксей Кульбіцкі** мне на гэта сказаў: “Я паспрабаваў, але атрымалася як дошка “Вышук”: іх шукае міліцыя”. Ён прапанаваў свой варыянт з трыма Барадулінымі, якія і тлумачаць сэнс назвы “Лепей”: кожны новы верш усё лепей, лепей і лепей….

На чахле, у які запакаваныя рукапісы, здымкі ды дыск, змешчаны фотаздымак аўтарства **Сяргея Шапрана**. Дарэчы, ён зусім свежы, зроблены месяц таму.

– Гэты кадр Сяргея Шапрана ўвогуле прэтэндуе на хрэстаматыйнасць, – лічыць Глеб. – Ён настолькі магічны і прыцягальны, што адразу лёг на чахол як упісаны. Вось гэта і была апошняя кропка: свежая картачка Барадуліна. Трэба добра разумець: ён не застыў, як камар у бурштыне. Нягледзячы на тое, што ўжо заняў найвышэйшы п'едэстал у нашай літаратуры, працягвае ствараць і ствараць фантастычныя рэчы. Калі чытаеш, проста зносіць дах ад таго, якія вершы, тым больш лірычныя, ён працягвае пісаць у 78 гадоў.

### Дзе можна набыць кнігу

Наклад кнігі – 1300 асобнікаў. Яе можна знайсці ў Мінску ў “Кніжным салоне”, у кнігарні “Акадэмкніга”, у кнігарні “Логвінаў”, на сядзібе БНФ.

Калі трэба з дастаўкай па Беларусі, яна ёсць і ў дзвюх інтэрнэт-кнігарнях: prastora.by ды imbryk.by.

– Я хацеў, каб гэтая кніжка выйшла адметная не толькі паводле зместу, але і паводле формы, – кажа Глеб. – Я перакананы, што нельга Барадуліна выдаваць абы як. У дзядзькі Рыгора выходзіць вельмі шмат кніг, і прыкра, калі некаторыя, фігуральна кажучы, на туалетнай паперы. Гэта неверагодны паэт, чые кніжкі павінны выходзіць на адпаведным узроўні.

### Як Рыгор Барадулін спаліў у Маладзечне блінцы

Па інтэрнэце ўжо гуляе гісторыя маладзечанца ЖЖ-карыстальніка h-anastasis.

Атрымаў кнігу рукапісаў Барадуліна “Лепей”. Прынёс дадому. Маці якраз на кухні бліны бульбяныя смажыла. Убачыла кнігу ў мяне ў руках – папрасіла глянуць.

Пакуль яна глядзела, я пайшоў курыць на балкон. А ж раптам, хвіліны праз дзве-тры, чую крык:

– Ай да Рыгор, ай да Барадулін…. Гэта ж трэба, пакуль яго фотаздымкі разглядала, блін падгарэў!

Блін не цалкам згарэў, а толькі з аднаго боку. Так пайшоў жарт у нашай сям'і, што з-за Рыгора Барадуліна чуць на нашай кухні блін бульбяны не згарэў.



Настасся РОЎДА
E-mail: nastya.rovdo@gmail.com
Skype: nastya_rovdo





КАНКУР

# – Хто каня на скаку спыняе? – Наезніцы

**МАЛАДЗЕЧНА. 27 снежня ў конна-спартыўным комплексе "Палачаны" адбыліся ўнутрышкольныя спаборніцтвы па канкуры.**



Фота забяспечана Святланай ДЗЕМЕШ

Спартсменка Святлана Дземеш на спаборніцтвах па канкуры.

Такія спаборніцтвы праходзяць у школе традыцыйна. Праводзім мы іх для дзяцей, якія першы раз выходзяць на старт, і для маладых коней, каб паспрабаваць іх у справе, – распавядае дырэктар дзіцяча-юнацкай спартыўнай школы №2 **Наталля Шаліма.**

У маленькім канкуры, у якім трэба пераадольваць бар'еры вышынёй 80-90 сантыметраў, удзельнічалі 15 пар ( вершнік + конь). Першае месца заняў **Сяргей Казлоў** на кані Лавелі. Другое – **Вольга Юха** на Ланфеолі і трэцяе – маладая спартсменка дзіцяча-юнацкай спартыўнай школы **Вікторыя Ганецкая** на Лапісе-Лазулі.

У канкуры, дзе бар'еры былі вышынёй да 110 сантыметраў, прымалі ўдзел 13 пар, лепшым таксама стала пара **Сяргей Казлоў** і кабыла Калумбія, другімі сталі Вольга Магуленка і Бярэта, трэцяе месца заняла таксама маладая спартсменка, 15-гадовая **Паліна Міхайлоўская** і конь Валіф.

**– Наталля Барысаўна, а чаму сярод наезнікаў пераважна дзяўчаты? З конямі, здаецца, не так проста абыходзіцца?**

– Гэта атрымалася гістарычна. Хто каня на скаку спыніць? І ў хату, якая гарыць, увойдзе? Жанчына! А калі сур'ёзна, то гэта па ўсёй Беларусі так, дзяўчат-наезніц нашмат больш. Я мяркую, таму, што дзяўчаты больш баявыя і, як гэта не дзіўна, больш вынослівыя. Хлопцы выбіраюць цяпер футбол, хакей. Ну што клюшка? Паставіў у кут пасля гульні, і вольны. А тут трэба клапаціцца пра свайго партнёра ўвесь час. І карміць, і чысціць, і песціць, і размаўляць.

**– Коні адбіраюць шмат часу?**

– Не шмат, а проста ўвесь! Нават выхадныя, але інакш я і жыць бы не змагла. У мяне тут сярод коней ёсць і свая дачушка. У маленькага жарабя загінула мама-кабыла. Таму я мусіла нават пайсці ў "дэкрэт", каб выкарміць яе.

Тут, на конным комплексе ў Палачанах, я з 1987 года, з 11-гадовага ўзросту. Лёс звязаў мяне з конямі назаўжды. І два інстытуты закончыла, каб працаваць з імі. Раней днявала і начавала ў канюшні, ведала ўсіх коней і па клічках, і як яны выглядаюць. Цяпер у нас шмат маладняку, але хутка ўсіх запомню.

**– А сярод коней ёсць свае любімчыкі?**

– У наезніка той любімы конь, з якім ён працуе. Калі паміж канём і чалавекам ёсць узаемаразуменне, то дробныя недахопы адно аднаму можна дараваць. Коні – гэта вельмі чулыя істоты. І яны адчуваюць, калі іх любяць. Што датычыцца мяне, за характар вельмі люблю нашага Валнаграфа, ёсць і коні-прыгажуны, якіх таксама нельга не любіць.

**– А як вы лічыце, ці ёсць перспектывы ў коннага спорту ў Беларусі?**

– Конны спорт – гэта вельмі дарагі спорт. Напрыклад, коні алімпійскага ўзроўню каштуюць каля 500 тысяч долараў. Неверагодная сума для спорту! Да таго ж, ва ўсёй нашай краіне столькі коней, колькі ў, скажам, Вялікабрытаніі нараджаецца за адзін год.

Таму давайце будзем рэалістамі. Са сваёй задачай мы спраўляемся. Коннікі з Палачанаў закрываюць каманду Мінскай вобласці. Патлумачу: з трох спартсменаў, што прадстаўлялі Мінскую вобласць на рэспубліканскіх спаборніцтвах па канкуры, два былі нашы, палачанскія.

**– А іншыя віды коннага спорту: выездкі ці трохбор'е не плануеце аднавіць?**

– Каб жа гэта было так проста. І выездка, і тым больш трохбор'е патрабуюць нашмат большай пласторы, чым мы можам забяспечыць у сваім манежы. Таму толькі канкур. У прынцыпе, цяпер нас усё задавальняе. Харчаваннем коні забяспечаныя на ўвесь год, яны атрымоўваюць поўны рацыён. Пасля нядаўняй нарады з удзелам віцэ-прэм'ера, нам абяцалі закупіць спартыўны інвентар. Канешне, ад дапамогі мы не адмаўляемся, у тым ліку і ад спонсарскай. Але ў нас жыве надзея, што ўсё будзе добра. Цяпер час такі, пераднавагодні, калі забываецца благое, а думаць хочацца толькі пра лепшае. Чаго ўсім і жадаю: конская здароўя і хай кожны ў Новым годзе знойдзе сваю падкову на шчасце!

**Наталля ТУР.**

НАВІНЫ

## Стартаваў чацверты тур

**МЯДЗЕЛ.** У фізкультурна-аздараўленчым цэнтры 24 снежня прайшлі тры гульні чацвертага тура чэмпіянату раёна па міні-футболе.

Супрацоўнікі РАУС з лікам 10:0 абыгралі каманду ЖКГ, "Зубраня" не пакінуў шанцаў "Юнiёру" 9:1, гульцы райваенкамата пасля некалькіх буйных паражэнняў перамаглі каманду Нарацкага Савета 6:4.

А ў суботу, 28 снежня, адбыліся чатыры гульні. Вынікі такія: Паставы – індывідуальныя прадпрымальнікі 7:2, СДЮШАР – прадпрыемства меліярацыйных сістэм 10:3, аддзел адукацыі, спорту і турызму – райаддзел па надзвычайных сітуацыях 6:3. Самы буйны выйгрыш у чэмпіянаце пакуль зарэгістраваны ў матчы паміж камандамі Мядзела і Крывіцкага савета (16:1).

## Вызначылі лепшых у баскетболе

**ВІЛЕЙКА.** З 16 па 21 снежня праходзілі раённыя спаборніцтвы па баскетболе сярод навучэнцаў устаноў адукацыі раёна.

У групе "А" ў юнакоў перамаглі прадстаўнікі вілейскай гімназіі №1 "Логас". У дзяўчат мацнейшай была каманда СШ №3 Вілейкі, паведаміла дырэктар раённага цэнтра дадатковай адукацыі дзяцей і моладзі **Жанна Скуратовіч**.

І ў юнакоў, і ў дзяўчат у групе "Б" першае месца занялі каманды з Ільянскай сярэдняй школы.

У групе "С" перамаглі каманды ўстаноў адукацыі з Вязыні (сярод юнакоў) і са Сцешыцаў (паміж дзяўчат).

## Хто лепшы ў більярдзе?

**ВІЛЕЙКА. Спаборніцтвы па більярдзе адбыліся 28 снежня. Прайшлі яны ў рамках круглагадовай спартакіяды працоўных калектываў раёна.**

Перамагла каманда "Зеніт-БелОМА", другое месца занялі прадстаўнікі цэнтра "Надзея", трэцяе – у каманды Вілейскай ЖКГ.

## У пераможцах – "Зеніт-БелОМА"

**ВІЛЕЙКА. Завяршылася круглагадовая спартакіяда працоўных калектываў Вілейскага раёна.**

Першае месца ў ёй заняла каманда "Зеніт-БелОМА", другое – на рахунку Вілейскай ЖКГ, трэцяе – у каманды аддзела адукацыі спорту і турызму райвыканкама.

– Да апошняга віду спаборніцтваў – більярда – лідарам была каманда аддзела адукацыі, спорту і турызму, – расказаў інструктар-метадыст раённага фізкультурна-аздараўленчага цэнтра "Імпульс" **Аляксандр Вайда**. – Але паколькі гэта каманда не ўдзельнічала ў спаборніцтвах па більярдзе, у выніковым пратаколе яна перамясцілася на трэцяе месца. А каманда "Зеніт-БелОМА" дзякуючы перамозе на адно ачко абышла прадстаўнікоў Вілейскай ЖКГ.

## Лепшыя – ветэраны

**МЯДЗЕЛ. 29 снежня ў райцэнтры адбыўся турнір па міні-футболе сярод ветэранаў (гэта гульцы, якім за 45 год). Прынялі ўдзел тры каманды.**

Перамагла каманда з Занарачы, якая набрала 4 ачкі, паведаміў дырэктар Мядзельскага фізкультурна-аздараўленчага цэнтра **Міхаіл Чаркасаў**.

У ветэранаў Мядзела другое месца (два ачкі). Трэцяе – у гульцоў з Нарачы (Купа): каманда набрала адно ачко.

## Згуляюць шахматысты

**ВІЛЕЙКА.** На канікулах памераюцца сіламі юныя шахматысты. Турнір па шахматах сярод навучэнцаў устаноў адукацыі адбудзецца 3 і 4 студзеня. Пройдзе ён на базе раённага цэнтра дадатковай адукацыі дзяцей і моладзі.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

# "Лядовыя пінгвіны" супраць "Спарты-2". Лік – 2:2

**МАЛАДЗЕЧНА. Чарговая гульня "Лядовых пінгвінаў", сапернікамі якіх была мінская каманда "Спарта-2", адбылася 27 снежня ў спартыўна-забаўляльным цэнтры і скончылася з нічыйным лікам.**

Сапернікі былі роўныя і годныя адзін аднаго. Лік матча адкрылі маладзечанцы. Але гульцы каманды " Спарта-2" у даўгу не засталіся і амаль адразу зраўнялі лік. Першы перыяд так і скончыўся з лікам 1:1.

Другі перыяд быў не менш дынамічны, эмацыйны. Варта асобна сказаць пра заўзятараў, што падтрымлівалі каманды на трыбунах. Нават калі варатар маладзечанцаў прапусціў другую шайбу, заўзятары з трыбунаў крычалі: "Не перажывай! Гэта не твая віна!"

І хутка "Лядовыя пінгвіны" зраўнялі лік 2:2, які так і пратрымаўся да канца матча.

Калі адбудзецца наступная гульня каманды, пакуль невядома. Але дакладна, што ўжо ў новым годзе.

**Наталля ТУР.**




Фота Наталлі ТУР.

Сяргей Трацццяк забівае шайбу ў вароты каманды "Спарта-2".

# Лепшых атлетаў-юніёраў вызначылі ў Маладзечне

**МАЛАДЗЕЧНА. Адкрытае першынство па лёгкай атлетыцы памяці трэнераў-выкладчыкаў Спіцына і Первянецкага адбылося 21 снежня ў дзіцяча-юнацкай спартыўнай школе №3.**

У спаборніцтвах узялі ўдзел 86 юныя спартсмены з Маладзечна, Смаргоні і Вілейкі. Юнакі і дзяўчаты 11-14-гадовага ўзросту, – распавяла метадыст школы **Алена Арэхава.**

Сярод дзяўчат у звязцы 60 і 200 метраў (бег) пераможцамі сталі **Ганна Жуль** з Вілейкі і **Дар'я Касякова** з Маладзечна. Сярод юнакоў лепшымі сталі **Кірыл Гісіч** з Вілейкі і **Дзмітры Картыннік** з Маладзечна.

У звязцы па бегу на 60 і 600 метраў таксама вызначыліся па два пераможцы. Дзяўчаты: **Анастасія Лянкевіч** з Маладзечна і **Паліна Харлап** з Вілейкі, сярод хлопчыкаў першыя **Руслан Пальчэўскі** (Маладзечна) і **Павел Матусевіч** (Вілейка).

**Наталля ТУР.**





## Камент-эксперт Rh.by

**Прысылайце свае каментары да артыкулаў і паведамленні праз сэрвіс унізе інтэрнэт-старонкі ці на e-mail: regionnews@rh.by, regionaljnaja@tut.by SMS на нумар +375-29 67-68-420**

**За пяць выкарыстаных батарэек – адну новую. Чаму не?**

Дык я з задавальненнем бы! Дзе запісваюць у добраахвотнікі? Як там у апытанцы: "Хоць сёння!" *Sh@m@n.*

**Паралімпіец Дзмітры Салей: "Назад у Беларусь я не вярнуся"**

Малайчына, Дзімон! Зарабляй грошы, пакуль ёсць магчымасць. Тут толькі падман ды абяцанкі, правільна сказаў. *Андрэй.*

**Мастак Уладзіслаў Страмінскі: лёс, творчасць і Вілейка**

Вілейскім слава! *Апанас.*

Вілейка заўсёды мела добрыя мастацкія традыцыі. Сёння іх ствараюць Мацюшонак, бацька і сын Цітовічы, скульптар Апарык… *Апанасавіч.*

**У якіх краінах плацяць падатак на аўто?**

Хутка ўвядуць падатак на магілкі!!! *Маладзечанец.*

### ІНТЭРНЭТ-АПЫТАННЕ

**Кім вы хацелі б быць на навагоднім маскарадзе?**

- **26%** Барбарай Радзівіл ці Вітаўтам
- **20%:** Прынцэсай ці Рыцарам
- **20%:** Піраткай ці Гангстэрам
- **13%:** Сняжынкай ці Снягавіком
- **13%:** Варажбіткай ці Чараўніком
- **6%:** Канарэйкай ці Кентаўрам

Усяго галасоў 16

### ДЗЕЦІ

## Як сын бацьку выхоўваў



Знаёмы распавёў такую гісторыю. Нясе ён аднойчы 4-гадовага сына на плячах. Захацелася яму плюнуць на дарогу, ён і плюнуў. Праз некалькі секунд чуе, як сын таксама плюнуў, ледзь не на бацьку.

– Сынок, так нельга рабіць!!! Гэта непрыгожа! – абурыўся бацька.

– А я бачыў, ты гэтак жа зрабіў.

– Ты што, я так не рабіў… Табе падалося, – вырашыў выкруціцца бацька.

– Татка, табе таксама падалося, – адказаў сын.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**

### СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 7 | | | | | 5 | 4 | |
| | 4 | 1 | | | | 9 | | |
| | 8 | | 5 | | 7 | | | 6 |
| | | | | 1 | | | | 2 |
| | | | 4 | | 2 | | | |
| 7 | | | | 8 | | | | |
| 4 | | | 6 | | 1 | | 8 | |
| | | 8 | | | | 2 | 7 | |
| | 3 | 2 | | | | | 5 | |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.



# Пра каралеву з Маладзечна пачуе і Парыж, і Вілейка



Фота Наталлі ТУР.

**"Снежную каралеву" выбралі ў гімназіі-каледжы мастацтваў у апошнюю пятніцу 2013 года. За гонар прымераць карону каралевы спрачаліся сем прыгажунь. Кожная была ў чымсьці непаўторная і ўнікальная. Марыя Барэйка, напрыклад, прадставіла сваю візітоўку на беларускай мове: "Будзе гудзець Лондан, Парыж і Вілейка, калі пачуе імя – Марыя Барэйка". Карона "Снежнай каралевы" ўпрыгожыла галаву Наталлі Скарынкі. На фота – Ірына Бурлай.**

### РЭПЕРТУАР

## Кінатэатр "Радзіма", Маладзечна

*ВЯЛІКАЯ ЗАЛА*

Анімацыйныя прыгоды "**Іван Царэвіч і Шэры Воўк-2**", 3D (Расія, 2013, без узроставых абмежаванняў)
3 студзеня – 13.30
4 студзеня – 21.00
5 студзеня – 19.00
6, 7 студзеня – 14.30
8 студзеня – 21.00
9 студзеня – 19.00
Кошт білета – 35 000-40 000 рублёў.

Навагодняя камедыя "**Ёлкі 3**" (Расія, 2013, дзецям да 12 год прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагогаў)
3 студзеня – 21.00
4 студзеня – 19.00
5 студзеня – 21.00
6 студзеня – 16.30
7 студзеня – 19.00
8 студзеня – 16.00
9 студзеня – 21.00
Кошт білета – 35 000-40 000 рублёў

Фэнтэзі, прыгоды "**Хобіт: Пустка Смаўга**", 3D (ЗША, 2013, дазволены для прагляду гледачам, якім за 16 год)
3 студзеня – 18.00
4 студзеня – 13.30
5 студзеня – 16.00
6, 7 студзеня – 21.00
8 студзеня – 18.00
9 студзеня – 16.00
Кошт білета – 45 000-50 000 рублёў.

Анімацыйныя прыгоды "**Халоднае сэрца**", 3D (ЗША, 2013)
3 студзеня – 15.30
4 студзеня – 16.30
5 студзеня – 13.30
6 студзеня – 18.30
7 студзеня – 16.30
8 студзеня – 14.00
Кошт білета – 35 000-40 000 рублёў.

*ЗАЛА ПАВЫШАНАЙ КАМФОРТНАСЦІ*

Баявік "**Нястрымныя**" (ЗША, 2012, фільм дазволены для прагляду гледачам, якім за 16 год)
3, 4 студзеня – 21.30
5 студзеня – 19.30
6, 7 студзеня – 21.30
Кошт білета – 35 000 рублёў.

Трылер "**Лімб**" (Канада, Францыя, 2013, фільм дазволены для прагляду гледачам, якім за 16 год)
3, 4 студзеня – 19.30
5 студзеня – 21.30
6-9 студзеня – 19.30
Кошт білета – 35 000 рублёў.

Камедыя "**Суддзя Дрэд**" (ПАР, Вялікабрытанія, 2012, фільм дазволены для прагляду гледачам, якім за 18 год)
8, 9 студзеня – 21.30
Кошт білета –35 000 рублёў.

*У ЧАС ЗІМОВЫХ КАНІКУЛАЎ:*

Анімацыйныя прыгоды "**Неверагодныя прыгоды ката**" (Францыя, 2013, дзецям да 12 год прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагогаў)
3 студзеня – 14.00
4-6 студзеня – 13.30
7 студзеня – 15.30
Цана білета – 15.000

Анімацыя "**Тор: Легенда вікінгаў**" (Германія, 2011, без узроставых абмежаванняў)
5, 6 студзеня – 15.30
Кошт білета – 15 000 рублёў.

Меладрама "**Зачараваная Эла**" (ЗША, 2004, дзецям да 12 год прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагогаў)
3-7 студзеня – 17.30
8 студзеня – 17.00
Кошт білета – 35 000 рублёў.

Анімацыйныя прыгоды "**Сарыла: Закінутая зямля**" (Канада, 2013, дзецям да 12 год прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагогаў)
8 студзеня – 15.00
Кошт білета – 15 000 рублёў.

Анімацыя "**Снежная каралева**" (Расія, 2012, без узроставых абмежаванняў)
3, 4 студзеня – 15.30
Кошт білета – 15 000 рублёў.

Тэл. **: 8(0176) 77-15-92, 77-06-30**

### ГАРАСКОП (3-9 СТУДЗЕНЯ)



**Авен.** Ва ўласных адносінах слухайце сваё сэрца, толькі яно падкажа вам правільны выхад у любой сітуацыі. Ды і Венера будзе садзейнічаць умацаванню вашых адносін.



**Цялец.** Вядзіце здаровы лад жыцця. Будзьце цярплівыя і чэсныя ў адносінах да сябе і навакольных, і ўдача не прымусіць сябе чакаць.



**Блізняты.** Працуйце над сабой, мяняйце да лепшага свае адносіны да людзей і да свету. Не будзьце ганарлівыя, бо гэта перашкода для развіцця.



**Рак.** Вы будзеце на сёмым небе ад шчасця. З вамі адбудзецца нешта незвычайнае, што перавернe ўвесь ваш уклад жыцця.



**Леў.** Зоркі прадракаюць вам духоўны пад'ём. Грашовыя пытанні не будуць праблемай, грошай будзе хапаць не толькі на бязбеднае існаванне, але і на тое, каб зрабіць запас.



**Дзева.** Не даймайце блізкіх людзей сваёй акуратнасцю, скрупулёзнасцю, прыдзіркамі. Нямногія будуць цярпець такое.



**Шалі.** Вам трэба заставацца сам-насам, каб у цішыні і спакоі падумаць аб тым, чаго на самой справе вы хочаце, задумацца аб сваім жыцці, адмовіцца ад старых прывычак. Знайдзіце "дарогу да сябе", і вы станеце самім сабой, займееце ўнутраны спакой.



**Скарпіён.** Развівайцеся духоўна, працуйце над сабой, жывіце з максімальнай аддачай, каб атрымаць цудоўныя вынікі. Нябесная сфера не застанецца ў даўгу. Радуйцеся падарункам лёсу і прымнажайце іх.



**Стралец.** А ад таго, як будзеце сябе адчуваць, залежаць шчасце ў асабістым жыцці, поспех, кар'ера.



**Казярог.** Спыніце адносіны з людзьмі, якія перашкаджаюць вам вучыцца, жыць і працаваць. Вам трэба набрацца сіл, упэўненасці ў сабе і цвёрда сказаць ім "не".



**Вадалей.** Навучыцеся мастацтву кампрамісаў. Уціхамірце сваю гарачнасць і праяўляйце разважлівасць. Шчасце – у вашых руках.



**Рыбы.** Не бярыце на сябе абавязацельствы, якія высмоктваюць з вас энергію. Лоўкасць і кемлівасць дапамогуць у складаных сітуацыях і зробяць вас больш моцнымі ўнутры. Не траціце дарэмна грошы. Будзьце разважлівыя і мудрыя.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

ISSN 1991-7155
9 771991 715006

**Камент-эксперт**

erh.by

Выкажы сваё меркаванне пра газету ці пра асобны артыкул, паслаўшы SMS-паведамленне на нумар **+375 (29) 67-68-420,** на e-mail **regionnews@rh.by** або пакінь каментар на **rh.by**

# Рэгіянальная газета. Rh.by

Тэлетыдзень 27

## ■ НАДВОР'Е

**4 студзеня, субота**

| | Субота | | Нядзеля | | Панядзелак | | Аўторак | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| **Мінск** | +2 / +1 | | +2 / +2 | | +4 / +3 | | +0 / +1 | |
| | 742 | ↗ 3 | 742 | ← 5 | 744 | ↓ 5 | 748 | ↑ 3 |
| **Вільня** | +3 / +4 | | +3 / +4 | | +6 / +5 | | +2 / +5 | |
| | 748 | ↖ 8 | 748 | ↖ 8 | 753 | → 2 | 754 | ↑ 7 |

| Тэмпература паветра / Воблачнасць ападкі | Усход, захад па Маладзечне |
|---|---|
| Ціск (мм рт. сл.) / Хуткасць ветра м/с | |

Усход 9.32
Захад 17.03
Даўжыня дня 7.29

Усход 10.48
Захад 21.42
Квадра 1




## ■ ПРЫКМЕТЫ

- 6 студзеня – Куцця ў праваслаўных. Калі сцежкі чорныя – ураджай на грэчку. Шмат зорак на небе – ягадны год.
- 7 студзеня – Раство Хрыстова. Калі вялікія гурбы снегу – да добрага года.

# Чытайце праз тыдзень:

- **Што напісаў выхадзец з вёскі Мікуліна Даўгінаўскай гміны Францішак Сяліцкі пра Даўгінаўска–Будслаўска–Крывіцкі рэгіён?**

## ■ КОНКУРСЫ

# Птушкі будуць жыць, як у Японіі

**МАЛАДЗЕЧНА. Напярэдадні новага года ў маладзечанскай гімназіі №3 прайшоў конкурс на лепшую кармушку.**

Паводле слоў дырэктара гімназіі №3 **Віталя Крупянькова**, такой творчай разнастайнасці яшчэ не было: у выглядзе хатак, альтанак, руказкоў, а адна дзяўчынка зрабіла кармушку ў выглядзе японскай хаты.

Конкурс праводзіўся сярод дзяцей 1-11 класаў, але больш яскрава праявілі сябе малодшыя вучні.

Такое мерапрыемства ў гімназіі ладзіцца штогод. Летась першыя месцы аддалі тым дзецям, якія рабілі кармушкі па адпаведных стандартах.

Сёлета меркаванне журы падзялілася. Першыя месцы дзеці атрымалі за арыгінальнасць кармушак.

– У журы заўсёды прысутнічае арнітолаг **Дзмітры Халадзінскі** і адміністрацыя школы, – кажа Віталь Крупянькоў. – Дзмітры Дзмітрыевіч заўсёды глядзіць на плошчу і вышыню кармушкі.

– Мы з татам зрабілі кармушку як заплечнік, – распавядае пасля атрымання дыплома вучань другога класа **Андрэй Шаўчэнка**. – Змайстравалі ў ёй рознага памеру адтуліны, каб змагла заляцець і вялікая, і маленькая птушачка.

– А ў мяне тата зрабіў кармушку за адзін дзень, усе матэрыялы для яе ён знайшоў дома, – кажа дзевяцігадовая **Вера Яблонская**.

А самай малодшай пераможцы **Машы Рогач** кармушку дапамагалі рабіць тата з сястрой. Пафарбавалі ў жоўты колер, размалявалі рознакаляровымі птушачкамі.

За першыя месцы Дзмітры Халадзінскі падарыў шчыгла і чыжа, а астатнія дзеці ўзнагароджаны дыпломамі.

**Вольга ЮРКЕВІЧ.**



Фота Вольгі ЮРКЕВІЧ.

**Пераможцы конкурсу кармушак Андрэй Шаўчэнка, Вера Яблонская і Маша Рогач.**

## ■ АДЗІН МОМАНТ З ЖЫЦЦЯ МАЛАДЗЕЧНА



Фота Настассі РОЎДЫ.

**Навагодняя ноч. Старасць мяне дома не застане.**



## ■ ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў МАЛАДЗЕЧНЕ

# Чым запомніўся мінулы год? Чаго чакаеце ад новага, 2014 года?



**Андрэй Абуховіч, працуе на "Белтэлекаме":**

– Асабліва нічым не запомніўся, сярэдненькі такі быў год. Нічым не горшы, нічым не лепшы за папярэднія. Ад надыходзячага года чакаю перш за ўсё фінансавых паляпшэнняў. Можа, што ў сям'і зменіцца ў лепшы бок.



**Павел Стужынскі, ратавальнік:**

– Не тое, каб самае добрае, але самае запамінальнае было тое, што я з'ездзіў у гэтым годзе на Камчатку. Акрамя гэтага, набылі з дзяўчынай камод. У 2014-м хачу атрымаць вадзіцельскае пасведчанне.



**Сняжана Гудзько, студэнтка:**

– Чаго чакаю ад будучага года? А калі скажу, жаданне спраўдзіцца? Тады хачу пачуць прапанову ад каханага чалавека. Год запомніўся тым, што ездзіла ў дзіцячы лагер у Туапсэ. А і дрэннае было! Упершыню за чатыры гады атрымала пераздачу па заліку.



**Алена Барташэвіч, пенсіянерка:**

– Ды нічога добрага не было. З кожным годам усё горш і горш. Вы, дзяўчаты, маладыя, вам не зразумець. У 2014-м чакаю, што паднімуць пенсію, дзеці будуць працаваць, а ўнук будзе добра вучыцца.



**Ала Андропава, палкоўнік у адстаўцы:**

– Год быў цудоўны і багаты на перамены. Я змяніла імідж, пераехала ў новую кватэру. А 2014 год будзе маім годам. Таму чакаю, што перамены ў жыцці яшчэ будуць. Асабліва хочацца змен у асабістым жыцці.



**Карына Міжыгурская, палітолаг:**

– У гэтым годзе скончыла інстытут. Так сказаць, уступіла нарэшце ў дарослае жыццё. У 2014 годзе мару сустрэць сваю другую палавінку, нармальную ўрэшце. Абзавесціся сям'ёй. І, канешне ж, павелічэнне заробку.



**Сяргей Войніч, будаўнік:**

– Рамонт скончыў. Цэлы год рабіў рамонт адзін, і вось ён завершаны. А ў наступным годзе чакаем з жонкай папаўнення ў сям'і.

**Падрыхтавалі Наталля ТУР, Настасся РОЎДА.**

Рэгіянальная газета. Rh.by Выходзіць па пятніцах. Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2. Тыраж 6000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска). Падпіска праводзіцца пастаянна ў паштовых аддзяленнях.
У розніцу – цана свабодная.
№ 1 (975) 3.01.2014.
Друкарня ТДА "Знамение", г. Мінск, вул. Каржанеўскага, 14.
Ліц. на права ажыццяўлення друкарскай дзейнасці №02330 /0150475 от 25.02.2009 г. Зак. . Падпісана ў друк у 10.00 2.01.2014.

Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.
Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Адрас рэдакцыі: 222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68а.
Тэлефоны/факс: (0176) 769667, 747100, 753841 (рэклама).
E mail: regionnews@rh.by, reklama@rh.by http://rh.by
Разліковы рахунак №3012164030004 у ААТ "Банк БелВЭБ" аддзяленне ў Маладзечне, код 226, атрымальнік ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета", УНН 600288444.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі РБ.